ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 32 (1526) ГОД XXX БЕЛАСТОК 11 ЖНІЎНЯ 1985 г. ЦАНА 8 зл.



Хор гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку пад кіраўніцтвам Сцяпана Копы.

## ПЕСНІ НАД БЕЛАСТОКАМ

20 ліпеня г.г. сабраліся мы ў беластоцкім амфітэатры, каб супольна адзначыць свята Адраджэння Польшчы. Гэтыя святкаванні наладзілі гарадскія праўленні Таварыства польска-савецкай дружбы і Беларускага грамадска-культурнага таварыства пры ўдзеле і выдатнай падтрымцы гарадскога камітэта Патрыятычнага руху нацыянальнага адраджэння.

Так шчасліва склалася, што ва ўсіх гэтых грамадскіх арганізацыях знайшліся энергічныя і настойлівыя людзі, якія не пашкадавалі сваіх сіл і часу, каб наладзіць у Беластоку змястоўнае і на высокім мастацкім узроўні культурнае мерапрыемства.

Калі гавару аб ТППР, дык у першую чаргу бачу Юрку Махнача, ад імя БГКТ шмат працавала, як заўсёды бойкая, Валянціна Ласкевіч, а ПРОН прадстаўлялі аж дзве асобы: старшыня гарадскога камітэта, дацэнт Вінанцыюш Панак і Люба Трахімчук. Дацэнт В. Панак выступіў з уступным словам, а Люба Трахімчук быццам бы прыгадала сваё слаўнае мінулае эстраднай артысткі ансамбля „Лявоніха" і зноў абрадавала прысутных задушэўнымі песнямі. Яна і распачала мастацкую частку гэтых святкаванняў

(Працяг на стар. 4)

## ФЭСТЫН У ВАЛІЛАХ

21 ліпеня, як штогод, напярэдадні свята Адраджэння Польшчы, у Валілах адбываецца ўрачысты мітынг жыхароў Гарадоцкай гміны. І сёння, у дажджлівы, цёмны дзень прышло іх ва ўрочышча Борык, у „зялёную святліцу", многа — дзяцей, жанчын, моладзі, членаў грамадскіх арганізацый, ветэранаў барацьбы і працы.

Ва ўрачыстасці ўдзельнічалі Яўген Верабей — прадстаўнік ВК ПАРП у Беластоку, Мікалай Дуброўскі — І сакратар ГК ПАРП у Гарадку, Анатоль Кандрусік — радны ВРН у Беластоку, Юрый Кандрусік — старшыня ГРН у Гарадку, Яўген Паплаўскі — начальнік гміны ў Гарадку, Юрый Матысюк — старшыня Гмінная рады ПРОН у Гарадку, Кастусь Майсеня — намеснік старшыні ГП БГКТ.

Асабліва сардэчна і горача прывіталі мы гасцей, прыехаўшых на сённяшнюю ўрачыстасць з Берастаўіцкага раёна Беларускай ССР: Яніну Ліпніцкую — намесніка старшыні Раённага выканаўчага камітэта, Рамуальда Глякоўскага — кіраўніка арганізацыйнага аддзела раённага камітэта партыі, Уладзіміра Васілюка — дырэктара машыннай базы ў Берастаўіцы і Валянціну Собаль — майстра малочнага прадпрыемства ў Берастаўіцы.

Пастановай Дзяржаўнага Савета ПНР адзначана Мар'я Лайка, д. Аляксандра, Бронзавым Крыжам Заслугі. Пастановай Дзяржаўнага Савета Медалямі 40-годдзя ПНР адзначаны: Юзаф Цыванюк, Аляксандр Гайдучэня, Аляксандр Грэсь, Юрый Кандрусік, Анатоль Кандрусік, Міхась Ціунчык, Мікалай Мялешка, Аляксандр Мялешка, Мікалай Матэйчук, Таіса Раманюк, Сяргей Савіцкі, Мечыслаў Варэйка.

Пастановай Прэзідыума ВРН у Беластоку за заслугі ў развіцці ваяводства Сярэбранымі значкамі „Заслужаны для Беласточчыны" ўзнагароджаны: Мікалай Бачко, Генадзь Бабко, Станіслаў Бількевіч, Рэмігіюш Каспшык, Уладзіслава Кавейша, Сяргей Ляўкоўскі, Ніна Матэйчук, Канстанцін Прышчэпка.

(Працяг на стар. 3)

## АДГАЛОСКІ

### АБ „НІВЕ" — ЯКАЯ ПАВІННА БЫЦЬ?

Дарагія сябры! Хачу выказацца аб „Ніве": якая яна і для каго.

Прапаную, каб „Ніва" была такой: з багата ілюстраванай вокладкай, так як у „Зялёным штандары" і „Дзённіку людовым". Вокладка павінна быць каляровая. На першай старонцы вокладкі павінны быць здымкі заграніных і айчынных вакальна-інструментальных калектываў і кароткая інфармацыя аб іх. На другой старонцы вокладкі трэба паказаць, як па-рознаму жывуць на свеце людзі. Калі выпадзе — успамінаецца дзень нападзення гітлераўцаў на Польшчу ці другую краіну Еўропы, і вельмі добра было б змясціць здымкі з часоў II сусветнай вайны. На трэцяй старонцы павінны быць фатаграфіі польскіх акцёраў і акцёраў з БССР і кароткая інфармацыя аб іх, а таксама адзін ці два здымкі з фільмаў, у якіх яны прымалі ўдзел. На чацвёртай старонцы вокладкі абавязкова мусіць быць красворд, як у суботне-нядзельных выданнях газет. Трэба таксама змясціць дзве песні. Адну польскую — на польскай мове, а другую беларускую — на беларускай мове. Астанецца яшчэ месца на моду. Можна паказаць, у чым ахвотна ходзяць маладыя і старэйшыя людзі.

Сама „Ніва" хай астанецца ў нязменнай форме, толькі трэба дадаць яшчэ дзве старонкі: трынаццатую і чатырнаццатую.

Маладыя людзі хочуць, каб былі голыя дзяўчаты і секс. Я супраць здымкаў голых дзяўчат. Гэта дзівацтва. Што ж цікавага — убачыць голага чалавека? Што датычыць сексу, то можна было б сістэматычна змяшчаць парады сексуолага. Секс з'яўляецца неаддзельным ад сямейнага жыцця, як вопратка і ежа. І так, на трынаццатай старонцы „Нівы" павінны быць парады сексуолага і гінеколага, а на чатырнаццатай парады для бацькоў, як апекавацца дзецьмі ў розным узросце. Можна таксама пісаць, як паўстаюць некаторыя хваробы і што трэба рабіць, каб іх пазбегнуць. Можна таксама пісаць, як даваць першую дапамогу пры апаранні скуры, зламанні нагі і г.д. Вось на чатырнаццатай старонцы павінны быць парады лекараў з розных галін медыцыны.

Можа хто скажа, што гэта ўсё можна знайсці ў другіх газетах,

(Працяг на стар. 4)

# НА МЯЖЫ

## АБ ПРАМІНАННІ (IX)

Англійскі філосаф Юм сказаў, што смерці не трэба баяцца, бо пакуль мы ёсць, дык няма смерці, а калі ёсць смерць, дык ужо няма нас. З гэтага, несумненна, цікавага афарызму вынікае, што чалавек як бы і не мае непасрэднага кантакту са смерцю. Жыццё і смерць як бы размінаюцца і толькі на момант уваходзяць у кантакт. Але, быць можа, жыццё і смерць гэта два бакі адной і той самай з'явы. А калі б так было сапраўды, дык трэба было б не толькі адкінуць погляд аб узаемным размінанні, але прыняць погляд, што жыццё і смерць ніколі і нідзе не расстаюцца. Можа і так.

Я асабіста далёкі ад істэрыкі старэючай мяшчанкі, якая не можа пагадзіцца з праміланнем і са смерцю. З другога, аднак, боку не характарызуе мяне і той дзівосны, стаіцкі спакой у адносінах да прамінання і смерці, які характарызуе аграмадную большасць старых вясковых жыхароў.

Мая пастава ў сваіх карэннях недзе і звязана з беларускай сялянскай псіхалогіяй, аднак сваім галлём дакранаецца яна і да мяшчанскіх нораваў. Выступае ў мяне свайго роду расколатасць, а там дзе ёсць расколатасць, не можа быць поўнага спакою.

Прызнаюся, што часта „прыслухоўваюся" да прамінання, да тых гадоў, месяцаў, тыдняў, дзён, гадзін, мінут і секунд, якія з усё большай шпаркасцю беспаваротна пралятаюць. Здаецца часам мне, што калі б удалося жыццё пачаць аднова, дык жыў бы разумней, пазбег бы тых памылак, якія былі зроблены. Такія разважанні поўнасцю пазбаўлены сэнсу па дзвюх прычынах. Па-першае — жыццё павярнуць назад нельга. Па-другое, калі б нешта такое і сталася, дык не значыць, што чалавек не нарабіў бы памылак. Маглі б гэта быць памылкі новыя, але гэта не значыць, што былі б лепшыя. Зрэшты, акрэсленне „лепшая памылка" таксама гучыць гумарыстычна.

У істоце амаль усе разважанні аб прамінанні і смерці прыводзяць чалавека да ўсведамлення сваёй бездапаможнасці. І таму, калі чалавек хоча жыць спакайней і весялей, не павінен думаць аб гэтай невырашальнай праблеме. Аднак лёгка сказаць, а цяжка зрабіць. Чалавеку з дапытлівым розумам, чалавеку, які цікавіцца сабой і светам, не так лёгка перастаць думаць аб тым, што мае непасрэдную сувязь з сэнсам існавання. Калісьці Дастаеўскі напісаў, што чалавек незалежна ад таго, як добра паесць і на як мяккай тахце сядзе, заўсёды будзе ставіць перад сабой пытанне: хто я і якая мэта майго існавання на зямлі?

Некаторыя з вучоных выказваюць думку, што чалавек пры адпаведнай дыэце, уласцівых псіхічных трэніроўках, рацыянальных адносінах да працы, адпаведным медыцынскім наглядзе, можа жыць 120-150 гадоў.

Зрэшты, ужо цяпер, асабліва сярод каўказскіх плямёнаў, жывуць людзі па 150-160 гадоў. Для прыкладу варта падаць, што не так даўно памёр у СССР чалавек, які ў 124 гады стаў дваццаты ці дваццаць пяты раз бацькам. Пражыў ён 168 гадоў і да апошніх сваіх дзён утрымоўваў інтымныя зносіны з жонкай, якая была маладзей за яго на болей чым 60 гадоў.

(Працяг на стар. 11)

# Весткі з Беларусі

## ДОМ-МУЗЕЙ У СТАРЫМ МІНСКУ

Шматвяковая гісторыя культуры Беларусі — яркая, непаўторная з'ява. Творчымі намаганнямі многіх пакаленняў створаны каштоўнасці, якія сталі спадчынай не толькі нашага народа, але і ўзбагацілі еўрапейскае мастацтва, набылі агульначалавечую значнасць. Мірскі замак, абразы Маларыцкага майстра, партрэты Івана Хруцкага — сярод лепшых дасягненняў мастацкай культуры Беларусі. Народнае ў сваёй аснове, дэмакратычнае ў імкненнях, мастацтва мінулага стала вытокам, які шмат у чым вызначыў станаўленне сучаснага мастацтва рэспублікі як арганічнай часткі шматнацыянальнай савецкай культуры.

Полымя вайны і не менш знішчальнае раўнадушша міру загубілі мноства цудоўных твораў жывапісу, скульптуры, музыкі, помнікаў архітэктуры і пісьменнасці. Каб запоўніць гэтыя прабелы, узнавіць „сувязь часоў", карпатліва працуюць рэстаўратары, гісторыкі, лінгвісты, музыказнаўцы, мастацтвазнаўцы. Акадэмія навук БССР, рэспубліканскія архівы і музеі, сотні энтузіястаў займаюцца пошукам, даследаваннем, выяўленнем фактаў і з'яў культурнага жыцця, сляды якіх, здавалася, страчаны назаўсёды для сучаснасці і гісторыі.

Адным з цэнтраў навукова-даследчай дзейнасці з'яўляецца Дзяржаўны мастацкі музей БССР у Мінску. Ужо працяглы час у музеі вядзецца праца, прысвечаная вядомаму жывапісцу I трэці 19 стагоддзя, жыццё і творчасць якога трывала звязаны з Беларуссю.

Валенці Ванькові́ч — равеснік Аляксандра Пушкіна. Будучы мастак нарадзіўся ў 1799 годзе ў маёнтку Калюжыцы Ігуменскага павета Мінскай губерніі ў сям'і павятовага суддзі Мельхіёра Ваньковіча, які належыў да старажытнага шляхецкага роду. Ужо ў дзяцінстве Ваньковіч выказаў вялікія здольнасці да рысавання і развіваў іх, калі вучыўся ў гімназіі пры Полацкім іезуіцкім калегіуме (з часам пераўтвораным у Полацкую акадэмію). Настаўнікамі малюнка тут былі ў гэты час Якуб Перлінг і Якуб Журдэн, французы. У 1818-1824 гадах Ваньковіч вучыўся на факультэце жывапісу, скульптуры і графікі Віленскага універсітэта (пазней гэты факультэт сталі называць Віленскай школай жывапісу). Яго настаўнікамі былі прафесар Я. Рустэм, кіраўнік факультэта, і Я. Дамель, у той час ад'юнкт факультэта. В. Ваньковіч хутка аказаўся ў ліку лепшых выхаванцаў школы. Яму была прысуджана першая прэмія ў конкурсе на кампазіцыю на тэму з старажытна-грэчаскай міфалогіі „Філакцет на востраве Лемнас". Мастак валодаў глыбокімі ведамі ў старажытнай гісторыі, чытаў у арыгінале творы Герадота, Тацыта, Ксенафонта. Тут, у Вільні, пачынаецца дружба на ўсё жыццё з Адамам Міцкевічам, таксама студэнтам універсітэта.

У 1824 годзе па рашэнню Вучонай рады універсітэта Ваньковіч быў накіраваны для ўдасканалення ў Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў. Яго педагогамі былі буйнейшыя майстры рускага класіцызму А. Ягораў і У. Шэбуеў. Прыродны талент, уся каласальная працавітасць і мэтанакіраванасць хутка давалі свае плады. На першым жа экзамене яго малюнак атрымаў першае месца, потым ён атрымаў вялікую і малую сярэбраныя медалі. Пра здольнага юнака загаварылі, партрэты яго пэндзля прыцягнулі агульную ўвагу. Яны былі сугучны настрою часу. Вялікі ўплыў аказала на мастака творчасць выдатнага рускага мастака-рамантыка А. Кіпрэнскага. Ваньковіч увайшоў у круг перадавой пецярбургскай інтэлігенцыі. Сябраваў з адным з буйнейшых майстроў рускага і польскага рамантызму А. Арлоўскім, мастаком І. Аляшкевічам, які таксама прыехаў з Беларусі, рускімі літаратарамі В. Жукоўскім, П. Вяземскім, М. Палявым. Адносіны з імі, безумоўна, адбіліся на станаўленні светапогляду маладога мастака, дапамаглі яму стаць на дэмакратычныя пазіцыі, сфармуліраваць эстэтычныя прынцыпы, адпаведныя лепшым тэндэнцыям эпохі. Адам Міцкевіч пазнаёміў яго з Пушкіным, над партрэтам якога Ваньковіч з захапленнем працаваў, але так і не завяршыў яго (захаваўся алоўкавы партрэт, які прадстаўляе вялікага паэта пад дрэвам ля вытока).

У 1828 годзе мастак стварыў карціну „Міцкевіч на скале Аю-Даг" (зараз у нацыянальным музеі ў Варшаве). Пошукі характэрнага ў выглядзе мадэлі і ў той жа час эмацыянальна нештодзённая, паэтычная афарбоўка вобразаў, дакладнасць і артыстызм рысунку, зладжанасць каларыстычных спалучэнняў вылучаюць партрэты паэта Антонія Гарэцкага, музыканта Караля Ліпінскага, вядомай піяністкі Марыі Шымаьоўскай, кіраўніка таварыства філарэтаў Анджэя Тавянскага (погляды якога падзялялі А. Міцкевіч і В. Ваньковіч).

У 1828 годзе Ваньковіч вярнуўся ў Беларусь, пасяліўся ў родавым маёнтку Сляпянка пад Мінскам. Тут ён працягваў творчую працу, меў двух вучняў: Тадэвуша Гарэцкага (сын Антонія Гарэцкага) і Банавентуру Клембоўскага, сабраў вялікую калекцыю твораў мастацтва. Часта выязджаў да Вільні і Мінска, дзе спыняўся ў доме свайго стрыечнага брата Эдварда Ваньковіча. Як успамінае вядомы польскі кампазітар Станіслаў Манюшка, у Сляпянцы або гэтым доме на вуліцы Валоскай (зараз вул. Інтэрнацыянальная) не раз адбываліся музычныя вечары.

Нацыянальна-вызваленчы рух 1830-31 гадоў не пакінуў мастака раўнадушным. В. Ваньковіч купіў зброю і каня. Толькі слабое здароўе не дазволіла яму прыняць удзел у баявых дзеяннях супраць царскіх войск. Разгром паўстання, гібель і выгнанне многіх сяброў і аднадумцаў не зламалі яго, але былі для яго цяжкім ударам. На партрэце 1840 года (Нацыянальны музей, Варшава) паказаны мастак, умудроны жыццём, ахоплены задуменным спакоем. Аднак ён не быў у згодзе ні са сваёй душой, ні з наваколлем. У 1841 годзе Ваньковіч накіроўваецца за мяжу, надоўга затрымліваецца, малюе, капіруе творы класікі ў Дрэздэне, Мюнхене, Страсбурзе. У Парыжы ён пасяляецца ў доме Міцкевіча на вуліцы Д'Амстэрдам. Мастак ведае пра смяртэльную хваробу, працуе без адпачынку, не шкадуе сябе. Апошні яго твор „Маці боская Астрабрамская" назаўсёды застанецца ў парыжскай царкве Сен-Северын. 12 мая 1842 года Валенці Ваньковіч памірае ад туберкулёза на руках Адама Міцкевіча. Пахаваны мастак на могілках Манмартр-дэ-Сен-Дэні ў Парыжы.

(Працяг на стар. 7)

# НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН?

## ФОРМА АДМЕТНАЯ, МЭТА—СТАРАЯ

Натаўскія сталіцы настойліва імкнуцца сцерці з памяці людзей жахі мінулай вайны. Менавіта гэтай мэце было, напрыклад, прысвечана мінулагоднае святкаванне гадавіны англа-амерыканскіх экспедыцыйных войск у Нармандыі ў ліпені 1944 г. Як паведамлялася ў часопісе „Таймс", амерыканскія і нямецкія ўдзельнікі баёў, што прыбылі на святкаванне, плакалі ад замілавання, расказваючы аб тым, як гуманна яны адносіліся адзін да аднаго. Запланаванасць падобных успамінаў відавочная, і яна ніяк не вяжацца з рэчаіснасцю. Фашысты катавалі і забівалі амерыканскіх парашутыстаў, захопленых у палон у Нармандыі. Маўклівымі сведкамі нацысцкіх зверстваў могуць быць крыжы на могілках у Ардэнах, дзе тысячы ваеннапалонных былі расстраляны з кулямётаў.

Былыя саюзнікі сцвярджаюць, што не хочуць кранаць мінулае, каб не пакрыўдзіць немцаў. Ці ж немцаў? Калі Джоны працавалі на заводах, Форды ўзбройвалі Германію і штогод з нагоды дня нараджэння Гітлера пераводзілі на яго імя 50 тысяч рэйхсмарак. У той час як са Злучаных Штатаў ішлі судны ў Расію з лендлізаўскімі пастаўкамі, Ракфелеры запраўлялі бензінам гітлераўскія субмарыны, якія тапілі гэтыя караблі. Калі амерыканскія дэсантнікі гінулі на ўзбярэжжы Італіі, Макітрыкі абмяркоўвалі з калегамі з краін „восі" пытанні, звязаныя з выкарастаннем нацыстамі пасля вайны нарабаванага імі ў акупіраваных краінах Еўропы золата. Сёння тыя, хто патураў ці адкрыта дапамагаў нацыстам, дэмагагічна сцвярджаюць, што выкрыццё ваенных злачынцаў з'яўляецца абразай нямецкай нацыі.

Чалавека нават з павярхоўнымі ведамі гісторыі не здзіўляе крывадушша правячых колаў Захада ў адносінах да нацыстаў. Грамадскасць на Захадзе пераконваюць, што нацысцкія злачынцы хаваюцца ў лацінаамерыканскіх джунглях, пастаянна азіраючыся ад страху, няздольныя знайсці спакой нават у старасці. Частка нацыстаў на самай справе асела ў Лацінскай Амерыцы, куды яны загадзя перавялі свае капіталы. Але большасць з іх цудоўна ўладкавалася ў Заходняй Еўропе і Паўночнай Амерыцы. Не саромеючыся свайго мінулага, а іншы раз нават пахваляючыся ім, яны працягваюць кар'еру ў якасці ўрачоў, юрыстаў, паліцэйскіх афіцэраў і нават афіцыйных урадавых чыноўнікаў. Іх тысячы. З ліку эсэсаўцаў, што засталіся пасля вайны, 95 працэнтаў пазбеглі справядлівай кары. Гарантамі іх выжывання і росквіту сталі тыя манапалістычныя сілы ў ЗША, якія садзейнічалі прыходу Гітлера да ўлады і ўзбройвалі нацыстаў амаль да сярэдзіны 1944 г. Яны змаглі выжыць і выхаваць сабе змену дзякуючы атмасферы „халоднай вайны", абвешчанай тымі ж далесамі, якія прадстаўлялі ў Амерыцы інтарэсы „банкіра эсэсаўцаў Курта Шрэдэра".

Яны і ім падобныя накіроўвалі свае намаганні не на дэнацыфікацыю, а на падаўленне дэмакратычных працэсаў у Заходняй Еўропе. Выкарыстоўваючы сваё эканамічнае і ваеннае становішча ў саюзе з правымі кааліцыямі, уключыўшы калабарацыяністаў, яны дамагліся выключэння камуністаў з урадаў Італіі і Францыі, нягледзячы на тое што кампартыі мелі больш моцную падтрымку выбаршчыкаў. Дзейнасць рэакцыйных колаў ЗША толькі па форме адметная ад курса „трэцяга рэйха". Мэта заставалася тая ж — барацьба супраць камунізму і імкненне да сусветнага ўладарання.

А. Ш.

# У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

Галоўнай тэмай пасяджэння Прэзідыума Галоўнага праўлення, якое адбылося 16 ліпеня, быў удзел БГКТ у выбарах у Сейм. Гэтыя справы шырока прадставіў намеснік старшыні ГП БГКТ Янка Зенюк, які з'яўляецца адначасова намеснікам старшыні Ваяводскай рады ПРОН.

Былі запрапанаваны кандыдаты на кандыдатаў у паслы да агульнапольскага Канвента ПРОНу. У лік гэтых кандыдатаў Прэзідыум запрапанаваў: старшыню ГП БГКТ др Аляксандра Баршчэўскага, кіраўніка кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта; намесніка старшыні ГП БГКТ Янку Зенюка, дырэктара педагагічнай бібліятэкі ў Беластоку; члена Прэзідыума ГП БГКТ Аляксея Карпюка — дырэктара Беларускага ліцэя ў Бельску і др Уладзіміра Юзвюка — старшыню Галоўнай рэвізійнай камісіі БГКТ, працаўніка Інстытута падрыхтоўкі педагагічных кадраў.

На пасяджэнні Прэзідыума абмяркоўваліся таксама справы набору настаўнікаў на месячны курс беларускай мовы і літаратуры ў Мінску, справы, звязаныя з рамонтам памяшкання ГП, і некаторыя арганізацыйныя справы.

(мх)

# У КОЖЫНЕ

У Кожыне на Бельшчыне 21 ліпеня г.г. з нагоды Дня Адраджэння адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка савецкім партызанам, якія загінулі ў гэтай вёсцы 20 ліпеня 1944 года. На здымку: помнік адкрывае сакратар Ваяводскага камітэта партыі, доктар Мечыслаў Дарожка. Вёска была ўганаравана Залатым знакам „Заслужаны для Беласточчыны". У гэты дзень Кожына абзавялося таксама новай пажарнай рамізай, спалучанай з прасторнай святліцай, пабудаванай грамадскім пачынам. Шырэй аб усім гэтым напішам наступным разам.

**В. Рудчык,**

Фота аўтара



(Працяг са стар. 1)

**ФЭСТЫН У ВАЛІЛАХ**

Міністэрства ўнутранага гандлю і абслугоўвання адзначыла Барбару Бяленя значком „Заслужаны працаўнік гандлю і абслугоўвання". Голас забралі тав. Мікалай Дуброўскі — па-польску, Яніна Ліпніцкая па-руску і Васіль Петручук — па-беларуску.

Пасля афіцыйнай часткі наступіла мастацкая, якой усе нецярпліва чакалі. Спяваў беластоцкі калектыў — песні польскія, рускія, украінскія, беларускія.

Хаця дождж ліў амаль без перапынку, да позняй ночы ва ўрочышчы гудзела — гулялі ўсё на забаве. Хто хацеў і меў грошы — вяртаўся дахаты з добрымі пакупкамі: гарадоцкі ГС пастараўся прывезці ходкія тавары. Усе былі задаволены, шкада толькі, што гмінныя ўлады не ўладзіліся з нябеснымі вярхамі наконт пагоды.

**Міра Лукша**

# БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ Ў ГРАБЯНЯХ

У нядзелю, 14 ліпеня г.г., у вёсцы Грабяні Дуброўскай гміны адбыўся фэст беларускай песні. Быў ён спалучаны з адкрыццём клуба селяніна, які ў значнай меры будавалі жыхары вёскі грамадскім пачынам. Ініцыятарам гэтага пачыну былі партыйная арганізацыя і гурткі ЗМВ і БГКТ. Варта адзначыць, што ў плане развіцця культуры горада і гміны Дубровы Беластоцкай, Грабяні прадбачаны як цэнтр беларускай культуры ў гэтай гміне.

Радасна было ў гэты сонечны дзень у вёсцы. Ля новага клуба сабраліся жыхары не толькі Грабянёў, але і суседніх вёсак. З захапленнем слухалі яны беларускія песні ў выкананні грабянёўскага і хілімонаўскага калектываў. Гэта была тут першая такая сустрэча з беларускай песняй, хоць песенныя традыцыі тут даўнія: беларуская песня ад вякоў спадарожнічала тутэйшым людзям у час працы і адпачынку. Добра, што прагучала яна публічна, прыгадала людзям, што жыве, бо маладое пакаленне, запалонена гукам біг-біту, часам забывае, што беларуская душа неразлучна была звязана са сваёй старой і прыгожай песняй. Яшчэ ў нас людзі памятаюць, як яна лунала на вячэрняй расе ад Сынкавіч праз Сідэрку і Грабяні і далей да Ячна, Вострава і Хілімон. Спявалі ўсе, маладыя і старыя, спявалі ўсюды: ля хат, на ўзгорках, дарогах, вечарынках, вяселлях. Гэтая песня не сварылася ні з кім і заўсёды жыла ў вялікай дружбе з польскай песняй.

Так яно было і 14 ліпеня на фэсце ў Грабянях. Усе мы хацелі, каб маладое пакаленне беларусаў Дуброўшчыны не толькі насіла з сабой транзістары і магнітафоны, але каб мела ў сваёй душы і сваю песню.

Гэты факт паказаў нам, дзеячам БГКТ, што тут маем многа рэзерваў і што іх трэба скарыстаць у далейшай працы.

Фэст ушанавалі прысутнасцю: намеснік старшыні ГП БГКТ Кастусь Майсеня (які таксама выступіў з дакладам), намеснік начальніка горада і гміны Ян Жданук, намеснік старшыні ГС у Дуброве Ян Санік, старшыня Дуброўскага аддзела БГКТ Аркадзь Суліма.

Беларускія кніжкі і пласцінкі прадаваў Аляксандр Рафаловіч.

Пасля ўрачыстай і мастацкай частак адбылося народнае гулянне, якое працягвалася да раніцы. Іграў мясцовы музыкальны калектыў, які дзейнічае менавіта пры новаадкрытым клубе селяніна.

**Мікалай Самойлік**

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

# ДЗІКІ ПТАХ — ВЕРАБЕЙ

Калі вы ўжо да мяне трапілі, то ведаеце, я людзей за дзверы не выкідаю. А можа вы са Святым пісаннем? Аб Богу таксама можам пагутарыць, калі хто Хрыста хваліць ад парога — гэта чалавек божы. Цяпер то ўсялякія па вёсках ходзяць, нядаўна быў тут такі адзін, што на партрэты браў заказы, а некаторыя то пакрывала возяць блiскучыя, вопратку пераліўчатую, шпікулянты. З гэтымі нічога не вядома, але калі хто з добрым словам... Суседзі гавораць: што ты так талкуеш з тымі сведкамі, ты задурны, невучоны, у якой веры ты радзіўся, у такой і памірай, а што — дрэнна табе? Гавораць, што гэтыя з Бібліяй навучаны сваімі, ерэтыцкія кніжачкі носяць. Я кажу: каб на кага што сказаць, то трэба добра яго ведаць. То і я гутару, хоць невучоны, кожнага ўгашчу, пачастую, вось цяпер, халаднік у мяне ёсць, малако, бульба, кава, булка хлеба, сядайце.

А як жа, разьба і малюнкі гэтыя — мае. Не, у Цэпэлію не хачу, я для іх нядобры. Не маю такое ручкі фабрычнае. А вы сюды так выпадкова, ці вас спецыяльна прыслалі? Напісаць што хочаце, шукаеце розных такіх дзівакоў? А аб чым і што хочаце пісаць, так і гаварыце, тое я вам і скажу. Смехамжартам. Вам мусіць пасаваць у вашую газету, не? Я там не ўмею языком віляць як вертлёт, але свае канцэпцыі ў мяне таксама ёсць і не люблю я „пасаваць". Адзін сюды такі малады быў прыйшоў, са мною фільм накручваць. Кажа, двор яму падыходзіць, гэты плот. маю даўбаніну павыносіў, паставіў а то на хлеўчыку, а то на слупках, узяў палавік, кажа: зраблю такі здымак, што нібыта ў прастор, у гэтую далячынь па гэтым палавіку-пасяку я пааайду, у неба — дарогу... Ну, і я хадзіў, рабіў усё рыхтык, што ён хацеў, з вялікай цікавасці, як яму гэты фільм выйдзе. Ну і гаварыў, што там, жыццё сваё чалавек пражыў, то не адно можа людзям сказаць. Толькі што яму гэтае не „пасавала", у яго іншая канцэпцыя, гаворыць: Верабей, вы вы-аль-е-на-ва-ны. Такі дзікі птах. А я яму, што так, дзікі з мяне птах Верабей, а вы на фантазію мне дзейнічаеце, пане малады рэжысёр. А цяпер буду усім рэзаць!!! Ну і рэзьбіў я людзей сваіх драўляных... А тыя круцілі. Ну і выйшаў я ў гэтым фільме, карцінка свае, голас свае, мае людзі — хто на слупку, хто на куратніку, палавік проста ў неба, а я той дзікі птах...

А з мяне Верабей нармальны, адкуль гэта верабей лётае далёка ад хаты. Гэта свойская, хатняя птушка. Кожны чалавек як тая птушка, адна птушачка маленькая, іншая большая, адзін пракорміцца чарвячком, а іншы арлом хоча быць драпежным і лётаць высока, многа мецъ рознай дабычы....

Мне тут добра, люблю сваіх. Кожны дзівак па-свойму, аднаму стукне адно, у іншага другія думкі...

Чаму вы да мяне прыйшлі як да „народнага артыста", а не да мяне самога? Вылучаюся? Кожны чымсь вылучаецца. Да кожнага трэба йсці, ды не з машынкай! Зрэшты, не пазнаеш чалавека от так, у гасцях. Каб яго паняць, трэ з ім пажыць, або што важнае пражыць, от — вайну, няшчасце, вялікую радасць ці біду, важную работу. Кожны можа важнае сказаць, што даць.

Эх, што ж я, Верабей... Пачаставаць вас толькі магу і паблагаславіць на дарогу!

**Міра Лукша**

(Працяг са стар. 1)




напрыклад ў „ітд“. Але ж я гавару, каб гэта было ў „Ніве“, у нашай беларускай газеце. Можа тады ахвотна куплялі б „Ніву“ ўсе беларусы? Тады была б яна для ўсіх. Чыталі б яе дзеці, маладыя, якіх цяперашняя „Ніва“ нудзіць, і людзі старэйшыя.

**Аўрора**

## У ЧЫМ ПАЭЗІЯ

Можа чытачы прымуць гэты тэкст так, як я прыняў адгалоскі Васіля Петручука („Ніва“ ад 21 красавіка). Петручук іранічна пісаў, што стоячы на беразе, мора нельга адрозніць ад акіяна. Што ж сказаць на гэта? Толькі тое, што фактычна, калі стаіш на беразе мора ў Калабжэгу, то ніяк, нават за год нельга ацаніць сілу і веліч Атлантычнага акіяна. То большменш так, як мой сусед кажа, пражыўшы ўсё жыццё з адной, што ўсе жанчыны аднолькавыя.

Я хачу пісаць аб іншым. Ёсць адзін такі сказ у тэксце С.Я. „Надзя Артымовіч — шосты член СПП“. Добра, што дзякуючы Надзі Артымовіч можа ўтварыцца Беларускі аддзел Саюза польскіх пісьменнікаў і наша справа дзякуючы гэтаму выйграе. Але што абазначае сказ С.Я.: „Надзею цікавіць толькі інтэлігентны чытач“? Мне здаецца, што С.Я. нешта тут пераблытаў. Не чытач, няхай ужо і інтэлігентны, цікавіцца паэзіяй Н. Артымовіч, толькі паводле С.Я. Надзя п і ш а для інтэлігентнага чытача. А што з неінтэлігентным? І прычым такі падзел чытачоў на інтэлігентных і неінтэлігентных? Дагэтуль я думаў, што паэзія больш звязана з пачуццём, чым з інтэлектам-розумам! Зразумела, што розум не перашкаджае ў прысвойванні паэзіі, але ці заўсёды інтэлектуал любіць і разумее паэзію?

Паэт, пішучы верш, адкрывае перад чытачом таямнічы свет, іншы ад таго, які відаць, напрыклад, з чаргі ці з-за матэматычных узораў. Паэта, вершаў якога сучасныя не разумеюць, можна пакрыўдзіць, адкідаючы яго паэзію. Але вялікі паэт выбягае ў сваёй паэзіі і на некалькі пакаленняў наперад.

Звычайнаму чалавеку цяжка здагадацца, што будзе праз тыдзень, а паэт ведае, што будзе і як будзе праз сто і тысячы гадоў. А паэты-геніі адкрываюць свет, які існуе вечна, і праўды, якія разумеюць не толькі ў Гайнаўцы, але і ў далёкай Індыі.

Заскрыпеў гэты сказ С.Я., як пясок на зубах, але здараецца, што чалавек піша, а чорт пяром водзіць. А на заканчэнне некалькі радкоў Надзі Артымовіч для інтэлігентных.

„Чалавек які ішоў побач са мною
Згорбіўся ад маленькага болю
чалавек ішоў па разжараным вуголлі
і так вельмі хацеў расказаць
гісторыю аднаго шэрага жыцця
жыцця якое нарадзілася
на скрыжаванні дарог.“

**Міхась Махнацкі**


Квартэт „Колакал“, які праславіўся ў Зялёнай Гуры.

# ПЕСНІ НАД БЕЛАСТОКАМ

(Працяг са стар. 1)

задзёрнай песняй „Дуданькі“. Пасля выступалі яшчэ Мікалай Мірановіч, Кася Зянько, Галіна Тшэцяк і квартэт „Колакал“ які складаюць: Адам Бура, Багдан Бура, Міраслаў Аляксейчук і Аляксандр Хіліманюк. З’яднала іх любоў да песні. Сустракаліся, прабавалі сваіх сіл, спявалі песні слаўных выканаўцаў, а затым рашылі прыняць удзел у конкурсе на савецкую песню. Паспяхова прайшлі цераз усе элімінацыйныя перасяванні — аж да Зялёнай Гуры. Спявалі там дзве песні: „Ой, ты рэчанька“ і „Ой, што ж за шум учыніўся“. І выспявалі сабе ўзнагароду.

І тут, у прасторным беластоцкім амфітэатры, звонка і далёка несліся над Беластокам іх песні. І не толькі іх, а ўсіх іншых выканаўцаў, сярод якіх быў і калектыў гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, якім кіруе магістр Сцяпан Копа, выступаў таксама вялікі і ўжо слаўны хор з Гайнаўкі, хор Гайнаўскага дома культуры пад выдатным кіраўніцтвам Аляксандра Лукашука.

І прыемна было слухаць, як песні адбіваліся ад кронаў дрэў і несліся па горадзе, апавяшчаючы нашу радасць.

Гаварыў аб гэтым старшыня ГП БГКТ доктар А. Баршчэўскі. гаварыў на сваёй роднай беларускай мове і людзі яго слухалі з увагай, ды шчыра яму апладыравалі. Таксама ўзнагароджвалі яны артыстаў-аматараў за іх песні, блізкія сэрцу кожнага.

Цэлую праграму вельмі спраўна ды з гумарам вяла Галена Скварчынская.

Арганізатары пастараліся таксама, каб людзі мелі чаго і напіцца, бо дзень выдаўся на славу сонечны, проста гарачы.

БГКТ наладзіла кніжную латарэю з білетамі па 30 зл., за якія можна было вылясаваць пласцінку з песнямі нежывучага ўжо Міхася Забэйды-Суміцкага, або каляндар ці зборнік вершаў беларускага паэта. Пападаліся шчаслі́ўцам і зборнікі Алеся Барскага, якія паэт ахвотна падпісваў сваім чытачам.

На святкаваннях чарговай гадавіны Польскага камітэта нацыянальнага вызвалення былі таксама прысутныя намеснікі старшыні Прэзідыума ГП БГКТ Кастусь Майсеня і Ян Зенюк, які, як вядома, з’яўляецца аднaчасова намеснікам старшыні Ваяводскага камітэта ПРОН.

Нельга, на жаль, сказаць, што беластоцкі амфітэатр быў запоўнены да апошняга месца, але людзей назбіралася многа. Напэўна не ўвабрала б іх самая вялікая канцэртная зала ў Беластоку. Тыя, што прыйшлі, безумоўна, не пашкадавалі свайго выбару. Час ад 4 да 7 гадзіны пасля абеду правялі яны карысна і прыемна. Пасля купальных святкаванняў было гэта другое вельмі ўдачнае культурнае мерапрыемства, наладжанае пры дзейсным удзеле гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку.

**Віктар Рудчык,**
Фота аўтара


20 ліпеня ў беластоцкім амфітэатры.

ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

# ВАРТА БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ

Палашка з унучкай Еўкай першыя пайшлі з поля. Я паглядзеў услед за імі. На сваю жонку, слава Богу, наглядзеўся я ўжо ўдосталь на працягу гэтых, страх падумаць, трыццаці з лішнім годзікаў нашага супольнага змагання з жыццёвымі клопатамі. Але вось за ўнучкай узіраўся я з любатою. Вырасла яна ў нас на славу! Высокая, стройная, з русымі валасамі, згодна з навейшай модай, начапуранымі, як у маладога баранчыка, ішла яна палявой дарогай, сярод каласістага жыта і беласнежнай грэчкі, быццам багіня Лада, гэтая прамаці ўсяго, што расце на зямлі-карміцельцы і жыць чалавеку дазваляе, усяго, што найпрыгажэйшае на свеце.

„Вось якая цудоўная моладзь зараз у нас пайшла“ — падумаў я ў захапленні. Свет цэлы для іх адкрыты. Хоч у горы, хоч на мора. А калі і гэта ўжо абрыдне, дык у Румынію, Балгарыю, Венгрыю, а нават і на Захад ці на Поўнач.

Толькі, я так мяркую, ці яны, гэтыя стройныя і таленавітыя нашы маладыя, ці яны ведаюць, адкуль і дзякуючы каму ўзялося ў іх гэтае жыццё?

— А навошта нам аб гэтым ведаць! — адказала мне на гэта наша Еўка. — Ці ты, дзедку, ведаеш, чаму лес расце, чаму сенажаць упрыгожана кветкамі, чаму свеціць сонца і дождж абмывае зямлю?

Сапраўды, чаму?

— Ну, бо так яно ёсць і годзе! — неяк няўпэў... адказаў я сваёй зазнайнай унучцы.

— Вось бачыш! — усклікнула яна! — Свет цудоўны і трэба запалоніць з яго для сябе як мага найбольш гэтай прыгажосці, заправіць свой душэўны акумулятар, каб да смерці хапіла прыемных успамінаў.

Так яна, разумніца, мне талкавала. І калі адразу, як толькі пачаліся канікулы ў яе вышэйшай школе, з’явілася яна ў нас, я найперш падумаў, што зноў за грашыма на нейкую замежную вандроўку. Еўка, аднак, пакуль што маўчыць аб сваіх фінансавых праблемах і шчыра нам дапамагае дома і ў полі. Асабліва ў час уборкі трускалак спраўлялася яна проста выдатна, і Палашка мела не абы-якую выручку, бо я ёй ужо памагчы не магу, хрыбет сапсаваў… хрыбет саштыўнеў ад старасці і больш як паўгадзіны часу не вытрымоўваю сагнуты над трускалкавым ягаднікам.

А калі б нават і за грашыма была яна да нас завітала, дык што? Напэўна не пашкадаваў бы я, колькі спатрэбілася б. Бо дзеля каго нам старацца? Хай едзе, хай глядзіць і засвойвае чужое! Тады, магчыма, сваё, дзедаўскае, ценіць пачне вышэй.

Мае кабеткі схаваліся за пэгеэраўскім садам, які тут у нас разросся на дзесятках гектараў, і тады я апамятаўся, што стаю, як варона з разяўленай дзюбай, а мне хутчэй з трускалкамі трэба на скупачны пункт, каб пасля ў чарзе не стаяць да позняга

# ФЭСТЫН У ГАРКАВІЧАХ

21 ліпеня, у нядзелю, у Гаркавічах, што на Сакольшчыне, апрача 41-й гадавіны ПНР адзначалася яшчэ 13 гадавіна адкрыцця ў мясцовай святліцы кутка памяці Сяргея Прытыцкага, які тут нарадзіўся, падрастаў, ды даволі доўгі час дзейнічаў. У 1930 годзе па рэкамендацыі мясцовай партыйнай ячэйкі КПЗБ быў ён прыняты ў камсамол, а трыма месяцамі пазней на падпольнай раённай канферэнцыі быў выбраны сакратаром Крынкаўскага райкома камсамола.

У 1932 быў выбраны спачатку членам, а пазней сакратаром Гродзенскага акруговага камітэта камсамола і прыняты ў рады КПЗБ.

Ганарацца гаркавічане сваім аднавяскоўцам, які ўпісаўся вялікімі справамі ў гісторыю рэвалюцыйнага руху Польшчы і ў гісторыю Савецкай Беларусі, дзе ён выконваў шмат партыйна-дзяржаўных функцый, а ад 1968 года быў старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і намеснікам старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. (С. Прытыцкі нарадзіўся ў 1913 годзе, а памёр 13.06.1971 г.).

Вёска Гаркавічы дала яшчэ аднаго выдатнага дзеяча беларускага народа — Паўла Валошына, беларускага пасла ў Сейм (1923-1927 г.г.), палымянага агітатара, які выступаў на многіх мітынгах і з'ездах работніцка-сялянскай Грамады і быў адным з заснавацеляў (разам з Б. Тарашкевічам і іншымі) і галоўным арганізатарам яе на Беласточчыне.

У куточку памяці Сяргея Прытыцкага адведзена месца на фота і скупыя дакументы-экспанаты аб Паўлу Валошыне.

**Па ініцыятыве гаркавіцкага гуртка БГКТ (налічвае ён 14 членаў) і пры дапамозе Сакольскага аддзела Беларускага таварыства вырашана было ўрачыста адзначыць Свята Адраджэння Польшчы, 40 гадавіну перамогі над Германіяй і 13 гадавіну стварэння куточка памяці Сяргея Прытыцкага.** Гурток БГКТ вылучыў спецыяльную арганізацыйную камісію ў асобах Галіка Галубовіча (старшыня камісіі), Івана Ганчара, Юркі Кішкеля, Левана Кішкеля (солтыс) і Івана Несцяровіча (старшыня гуртка БГКТ). **Дзякуючы падтрымцы ўсіх жыхароў вёскі і асабліва моладзі, камісія хутка прыступіла да працы.**

**Было падрыхтавана спецыяльнае месца на вольным паветры, абсаджанае бярозкамі, быў наведзены ўсюды ўзорны парадак, былі запрошаны ўлады, падумалі таксама пра аркестр і пачастунак для гасцей.**

**На жаль, 21 ліпеня дзень быў дажджлівы, і ўрачыстасць адбывалася ў святліцы. Прыбыло многа людзей, прыбылі гмінныя ўлады з Шудзялава на чале з I сакратаром камітэта ПАРП Станіславам Кувэйшам, а з Саколкі** нястомныя дзеячы аддзела БГКТ — Мікалай Байгуз, Сяргей Крышань, Аляксандр Рафаловіч і Кастусь Моцька. **Было цеснавата, было шмат людзей на ганку і пад адкрытымі вокнамі (яны хаваліся пад парасоны) але дзякуючы апаратуры ўсюды было добра чуваць.**

**Урачыстасць распачалася прывітальным словам старшыні аддзела БГКТ Міколы Байгуза. З дакладам выступіў член Прэзідыума ГП БГКТ, журналіст „Нівы“ Міхась Хмялеўскі, а ў мастацкай частцы жаночы беларускі харавы калектыў з Гарадка пад мастацкім кіраўніцтвам Сцяпана Копы. Яго песні і дэкламацыі вельмі падабаліся прысутным і ўзнагароджваліся гучнымі воплескамі, а пасля заканчэння ў адрас гарадоцкіх самадзейнікаў было выказана шмат цёплых слоў і ўручаны былі кветкі.**

Надвячоркам распачаліся музыкі.

**М. Х.**

Фота аўтара



**Арганізатары фэстына.**

### ГЛЕДЗЯЧЫ ЗБОКУ

У гданьскім клубе БГКТ у чэрвені адбыўся вечар Янкі Купалы, падрыхтаваны нашай моладдзю. Добра, што прыпамінаюцца ў такой форме (вечар, свечкі, інтымнасць, гукі беларускіх песень) строфы вершаў нашага народнага паэта.

У пачатку ліпеня ўдалося ў Сопаце пабачыць і паслухаць ансамбль „Васілёчкі“, які выступіў на свяце песні, арганізаваным Украінскім таварыствам. Вельмі прыемна было паціснуць руку самога Сяргея Лукашука — дырыжора „Васілёчкаў“, які пасля дваццаці з хвастом гадоў не забыў, як выглядае аўтар гэтай карэспандэнцыі.

Некалькі гадзін канцэрта дазволілі адарвацца ад штодзённасці, заглянуць у блізкасць далёкага.

**М. Куптэль**

вечара. Глянуў я на сваю кабылку, а яна, каб яе трасца, карыстаючыся маёй няўвагай, павярнула ў зялёны авёс і жне яго поўнай мордай. Пярэдняе каляско заглыбілася ў баразну, воз нахіліўся, кошычкі з трускалкамі вось-вось паляцяць і будзе вялікая каша. Я за лейцы, а яны ў каляско ўкрунуліся і яшчэ горай цягнуць дурненькую кабылку ўбок. Проста няведама за што брацца: ці ратаваць кошычкі з трускалкамі, ці адчапляць лейцы, ці адганяць ад аўса...

Ну, не важна, як усё гэта разблыталася, але важна тое, што вярнуўся я дамоў з нервамі напружанымі, як струны ў скрыпцы. Хопіць дакрануцца, а ўжо адгукнуцца яны самым высокім тонам. Праўда, першую злосць спагнаў я на сваёй кабылцы, якая сваёй безадказнасцю начаўпла столькі бяды, але яшчэ ў душы асталося шмат гэтага нервовага гарачага варыва.

Заходжу я ў хату, спадзеючыся нейкай гарачай стравы, каб за вячэрай цалкам супакоіцца, а тут мая Палашка сядзіць перад тэлевізарам як зачараваная, а Еўка штосьці майструе каля свайго магнітафона.

У душы маёй збалелай зноў закіпела. Відаць, Палашка адчула гэта, бо павярнулася да мяне і паклала два пальцы на свае губы. Маўляў, маўчы! І сама адсунулася, каб для мяне зрабіць месца на тапчане.

— Сядай і глядзі! — хляпнула яна далонню па пружыністых падушках. Я зусім збаранеў.

— З Мінска перадаюць фальклорную праграму, — паясніла ўнучка. — Я з магнітафонам падключылася. Можна будзе паслухаць, калі захочаце чагосьці свайго. І я з сабою ў лагер забяру гэтую касету.

*„Ой, за гаем, гаем зяляненькім, там арала дзяўчынонька конікам сівенькім. Арала, арала, няўмела араці, тай наняла мужычонька на скрыпачцы граці“*, — бадзёра і задзёрыста, у поўныя грудзі ды як жа прыгожа цягнула стройная дзеўка ў народным уборы гэтую і мне вядомую ад дзяцінства нашу народную песню. І падзейнічала яна на мяне як цудадзейны бальзам. Ногі быццам успомнілі сваю маладосць, адгукнуліся гатоўнасцю да зухаватага танца, на вуснах паявілася ўсмешка, як бы я сёння зусім і не злаваўся. Дык моўчкі заняў я месца каля сваёй жонкі.

Праграма прадаўжалася больш за гадзіну часу. Кніжкі цэлай спатрэбілася б, каб апісаць, што разыгрывалася на тэлевізійным экране. Даўно не чуў я і не бачыў такога багацця нашай роднай культуры. Даражэнькія, сапраўды варта быць беларусам! У нас жа столькі свайго прыгожага!

Наканец нейкі старэйшы чалавек падняўся на сцэну і шчыра падзякаваў самадзейным артыстам за ўсё, што яны наспявалі і паказалі. І я разам з імі гатоў да зямлі пакланіцца з падзякай ды просьбай: больш часцей такога!

**Максім Нурэцкі**




### КАЛІ ПЕРАСТАНЕМ ДУРЭЦЬ?

Субота. На прадпрыемствах і ўстановах дзень вольны ад працы. Але не ў мяне. У мяне няма вольных дзён. Мне трэба карову выгнаць на пашу, у абед яе перачапіць, а свінней ужо жонка даглядае.

І вось пайшоў я перачапляць сваіх кароў. Пагода хілілася на дождж. Толькі каровы і ў дождж есці хочуць — трэба ісці. Бачу: дарогай едзе легкавая машына і затрымліваецца ў невялічкім ляску. Ну, думаю, ужо гарадскія „бэцяры“ пачынаюць шнырыць за грыбамі, хоць тыя яшчэ не растуць. Прыглядаюся: вылазіць з машыны двух з мяшкамі і кіруюцца ў мой бок. Убачыўшы мяне, пачалі хавацца ў маладых хвайняк. Мяне гэта зацікавіла, і я надумаўся падгледзець іх. Падышоў і ўбачыў — гэта добрыя знаёмыя. Адзін працуе на адказнай пасадзе і добра зарабляе. Калі прыйшлося да размовы, выявілася, што яны прыехалі сюды зарабіць. Хочуць дзерці кару з крушыны, якую, высушыўшы, прададуць на пункце скупкі „Гербаполь“. Сухая кара каштуе 100 зл за кілаграм. Знаёмы, праўда, давай мяне прасіць, каб я нікому не гаварыў, што ён захацеў гэтак падзарабіць, бо сорам. А я яму пачаў тлумачыць, што сорамна было б, калі б ён зняў з мае каровы ланцуг, або каб што іншае пайшоў красці. А што ён у дазволены спосаб хоча падзарабіць — які ж гэта сорам?

Мне здаецца, што ўсялякую работу рабіць не сорамна. **І каб так разумеючых жыццё людзей было ў нас як найбольш, тады і дэвізаў на лякарствы ды іншыя патрэбныя рэчы дзяржава менш аддавала б, а мы ўсе багацелі б. Што за дурнота, дзяліць работу на прыстойную і непрыстойную? Калі мы станем сур'ёзнымі людзьмі і перастанем быць панкамі-дуралеямі?**

**М. Лук'янюк**




### ГМІННЫЯ СПАБОРНІЦТВЫ

Адбыліся гмінныя спаборніцтвы ў **Нараўцы**, у якіх удзельнічалі каманды з сямі прадпрыемстваў. Першае месца заваявала каманда настаўнікаў, другое занялі чыгуначнікі і трэцяе — работнікі гміннага ўпраўлення.

У шматбор'і найлепшых поспехаў дабіліся мужчыны з каманды спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў (СКР) і жанчыны — настаўніцы.

Найлепшых вынікаў у наасобных відах спорту дабіліся ў кіданні ядра — **Кастусь Целушэцкі** (СКР), у скоках — **Мікалай Павільч** (Гміннае ўпраўленне), у бегу на 1000 м — **Ян Трусевіч** (СКР), у веласіпедным сламоме — **Юзэф Астроўскі** (СКР). Сярод жанчын найлепш скакала ў далечыню — **Цэліна Паршэнка** (ГС). На дыстанцыі 60 м найлепш пабегла **Ліля Кардаш** (школа) і на 400 м — **Ірэна Мароз** (ПКП).

**(яц)**

# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

Формула „Наш бык да вашай цялушкі прывык“, праўдападобна, у мінулым ужывалася на тэрыторыі ўсёй Беларусі. Ужо ў пачатку XIX стагоддзя паявілася яна ў вельмі цікавым ананімным артыкуле, змешчаным у часопісе „Tygodnik Wileński“. Зрэшты, аўтар каларытна прадставіў увесь абрад сватання сярод беларускай шарачковай шляхты, якая хаця і выносілася высока над сялянствам, але ў істоце заўсёды заставалася на сялянскім інтэлектуальным і звычаёвым узроўні. Паслухайма фрагмент артыкула:

„Wieczorem, kiedy się spodziewają swata, cała rodzina i czeladź chatnia ochędożniej niż przy sobocie ubrani, trzymają się w kupie, siedząc wtenczas wszyscy nic nie robiąc, rozmawiając tylko, oprócz panny, która się ciągle krząta od kąta do kąta, to sprzątając rozrzuconą tu i ówdzie odzież, to ustawiając na policy naczynia, to zmiatając węgle od palącego się łuczywa spadające itp. Gdy to się dzieje, przybywa swat nareszcie. Wchodzi, staje wśród izby, kłania się na wszystkie strony, ale nikt na niego nie zwraca uwagi, mianowicie córka gospodarza, która wtenczas najbardziej się uwija. Sam gospodarz siedzi nieporuszony w kącie naprzeciw drzwi (najstarsze miejsce) i zdaje się być w zamyśleniu, które przerywa spostrzegając idącego ku sobie swata. Wita go w sposób dosyć obojętny, nie ruszając się nawet z miejsca.

...Sposób ten witania się swata z gospodarzem, ponieważ jest formą jednostajną, uświęcony za rzecz przyzwoitą, sądzę przedłożyć go w języku oryginalnym: „Siadź u nas, susiedzie, doma hość budziesz. — Dziakuju, siadzieli doma, ale szto z taho budzie?

Nasz byk do waszej ciałuszki
prywyk,
Kab dau Boh dożdaci,
Waszuju ciałuszku da naszaha
byka zahnaci."

Po wypowiedzeniu powyższej formułki swadziebnej wtem gospodarz nagle porywa się, wyskakuje z miejsca, bierze swata pod rękę i na kąt wskazując, z wielką uprzejmością zaprasza siedzieć. Swat bez oporu zasiada w kącie, a dziewka w tejże chwili prędko wymyka się z chaty i bieży śpiesznie albo do bliskiej i przyjaznej sobie krewnej, albo — gdy tej nie ma — do najbliższej i najpoufalszej przyjaciółki, której opowiedziawszy wszystko, powraca do domu, nie idzie jednak do izby, z której wybiegła ale do izdebki".

Прыведзены эпізод сведчыць, што ў мінулым абрад сватання быў больш тэатрэлізаваны, чым у часах пазнейшых, і гэта зусім заканамерна. Справа ў тым, што з цягам часу вясельная абраднасць, гэты свайго роду вясельны тэатр, усё болей губляе свае складовыя часткі.

Вяртаючыся да вульгарнай з нашага пункту гледжання фор-

**(Працяг на стар. 8)**





# МАЯ ПРЫРОДА

Мая бабулька нарадзілася перад I сусветнай вайной. Яна заўсёды, калі ўбачыла, што хтось, акрамя звычайнага ўгнаення, дае штучнае, гаварыла: атруту сабе сыпле. Людзі пераконвалі яе, што ад штучнага ўгнаення хутчэй і лепей расце. Але гэтага яна не прымала. Штучнае ўгнаенне — гэта была паводле яе атрута і ўсё.

Ворыўнай зямлі і лугу ў нас мала. Каб неяк пражыць, трэба было старэйшым членам сям'і працаваць на дзяржаўнай пасадзе, або зарабляць грошы ў другіх гаспадароў. Трымалі дзве каровы. Аднойчы так здарылася, што ў хаце не было нават кубка малака. Адна карова ацялілася і цяля ўсё выпівала, а другая, як кажуць, некалькі разоў не адбегала, і была ялавай. Пайшла бабка да адной жанчыны зарабляць малако. Сёе-тое памагла ёй у палявых работах і тая ўвечары прынесла тры літры малака. Згатавала мама зацірку і селі вячэраць. Узяла я толькі адзін раз зацірку і больш не магла есці, хаця была гэта мая любімая яда. Малако мела такі смак, быццам хтось мыла шэрага ўкінуў. Не пахла свежым малаком, а смярдзела. Аказалася, што яны давалі на луг штучнае ўгнаенне.

Тады ў нашай вёсцы толькі што пачыналі гэта рабіць. Яшчэ доўгія гады многія гаспадары аб штучным угнаенні не хацелі нават думаць. Цяпер робяць гэта ўсе. А эфект гэтага? Гінуць некаторыя гатункі раслін, буслоў стала малавата, іншых птушак таксама. Вада ў рэчцы таксама забруджаная. Калі я была яшчэ дзіцём, можна было ваду з рэчкі піць і нічога дрэннага не сталася, а цяпер не. Быў такі выпадак, што адна жанчына напілася вады з рэчкі і захварэла.

Вучоныя з галіны сельскагаспадарства трубяць, што штучнае ўгнаенне трэба даваць, бо яно дае добрыя вынікі. Расце ўсё вялікае — гэта факт, але якое яно? Атруты штораз больш. Добра, калі селянін добрасумленны і дае столькі штучнага ўгнаення, колькі трэба, а






# ПАРТЫЗАНЫ „БАЦЬКІ"

Называлі іх атрадам „Бацькі“. Магчыма таму, што адзін з партызанаў, зусім не найважнейшы, барадаты і вусаты дзядзька, атрымаў ад сваіх сяброў менавіта мянушку „Бацька“. І так ужо павялося па наваколлі. Калі здарылася, што гітлераўцам „далі“, калі цягнік паляцеў пад адхон, або аўтамабіль разбіўся на шашы, калі нейкі падлізнік атрымаў за свае паслугі адпаведную „ўзнагароду“, тады з вёскі ў вёску, ад суседа да суседа ішла вестка, што гэта пастараўся „Бацька“.

І для саміх партызан атрад іх быў сапраўдным бацькам, ад якога заўсёды маглі спадзявацца апекі і падтрымкі ў бядзе. Да яго вярталіся як да бацькоўскай хаты. Кожны чалавек, кожны селянін, калі прадчуваў павісшую над ім пагрозу арышту і гітлераўскіх здзекаў, мог разлічваць на ратунак у атрадзе „Бацькі“.

Яго гісторыя пачалася недзе ў маі 1942 года. Ядро атрада састаўлялі даўнейшыя члены Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і даваенныя камсамольцы: Хведар Парфенюк з вёскі Залукі, пазнейшы камандзір атрада, затым — Сцяпан Кандрусік, Язэп Тарасевіч і Аляксандр Майсак з Гарадка, Канстанцін Кісляк з Меляшкоў, Язэп Бурса з Навасёлкаў, Уладзімір Карпюк са Страшава і гэты „Бацька“, значыць, Зрайкоўскі з вёскі Залукі. Пасля далучыліся да іх Храноўскія з Дзернякова і Мардань з Валілаў, а таксама група савецкіх грамадзян, былых воінаў і афіцэраў Чырвонай Арміі пад камандаваннем лейтэнанта Дзмітрыя Новікава і многія іншыя, прозвішчы якіх не захаваліся ў памяці маіх інфарматараў.

Аб'ядноўвала іх адна супольная вялікая ідэя: нянавісць да акупанта. Яны ведалі, што не могуць разлічваць на спагаду ў гітлераўцаў. Кожны з іх паўтараў сабе як бы святую прысягу: жывым немцу ў рукі не здамся!

На працягу параўнальна кароткага часу іх атрад разросся да звыш 40 чалавек, якіх трэба было пракарміць і ўсцерагчы ад неспадзяванай атакі ворага. Гэта маглі абяспечыць толькі сувязныя — звычайныя сяляне з многіх вёсак, раскінутых у наваколлі Гарадка, часта цэлыя сем'і, як для прыкладу, Ігнацюкі з Грыбаўцаў, або Карпюкі са Страшава і Храноўскія з Дзернякова. Гэта яны збіралі хлеб і яйкі ды іншае харчаванне, каб пасля перадаць у лес, ведаючы, што за адно падазрэнне ў гэтакай дзейнасці пагражала смерць. Гэта яны сачылі за паяўленнем варожых атрадаў і папярэджвалі аб гэтым сваіх партызан. Сувязнымі былі таксама Косця Карповіч з Грыбаўцаў, Валодзя Карпюк са Страшава, Васька Паплаўскі, Пецька Янкевіч і яго брат Шурка, Грэсь Налівайка, браты Ігнат і



калі дае намнога больш? У апошні час вучоныя пачалі праводзіць доследы, як і што рабіць, каб не даваць штучнага ўгнаення. Калі яны знойдуць штось такое? Я хачу, каб чым хутчэй знайшлі такі сродак, які назаўсёды заменіць штучнае ўгнаенне.

Пасля II сусветнай вайны паўстала многа шахтаў і фабрык, якія забруджваюць паветра. Паветра, у якім знаходзіцца 21% кіслароду, 78% азоту і 1% іншых газаў, вельмі добрае. Чалавек можа з лёгкасцю дыхаць і нічога яму не перашкаджае. Але калі колькасць іншых газаў і азоту павялічваецца, а кіслароду штораз менш, тады бяда ўсім людзям. Я не ведаю, як могуць жыць людзі каля „Хімічнай“ у Гайнаўцы і Дубінах.

Тая ж самая „Хімічная“ так запаскудзіла рэчку Лясную, што многія людзі называюць яе „Смярдзюшкай“. Быў такі выпадак у гайнаўскай школе. Настаўніца праводзіла ў I класе кантрольную работу, якая заключалася ў тым, што чытала вучням пытанні, на якія яны давалі адказы. Адно з пытанняў было такое: „На якой рацэ стаіць наш горад?“. Многія вучні напісалі: „На Смярдзюшцы“. Падобных заводаў у Польшчы тысячы, многа іх таксама ў цэлай Еўропе, а колькі іх на цэлым свеце? Няўжо нельга зрабіць так, каб гэтыя адпады выкарыстаць для прадукцыі новых матэрыялаў? Хтось падумае — якіх матэрыялаў? Што можа паўстаць са смярдзючага сцёку і дыму? Але ж так! Каб спецыялісты добра падумалі і ўсур'ёз заняліся гэтай справай, можа нешта выйшла б.

Атмасфера так зацягнута густым пылам і рознымі газамі, што сонечным промням штораз трудней прабіцца праз гэта. Старыя людзі гавораць, што калі яны былі маладымі, то такіх „цыркаў“ з пагодай не было. Быў дождж, было сонца, але ўсё ў меру. Не тое, што цяпер.

Куды дзеліся тыя часы, аб якіх мне бабка расказвала і мама ды яшчэ я сама трохі памятаю? Помню, малако так пахла, што хацелася яго піць. Бывала, паставіць мама ў сцяноўку саганчык з малаком, а яно так запарыцца, што ажно плеўка на вяршку зробіцца. Такая тоўстая, што чырванаваценькая. Паверце, гэта лепш смакавала, чым цяпер мяса. Бульба варыцца, а прыемны пах ідзе па хаце, нават на панадворку чуеш. А цяпер навары́ш, закрасіш цыбуляй, перасмажанай з саланінай, і ніякага паху няма.

Бабка расказвала, што калісь мяса елі мала, толькі ў вельмі ўрачыстыя святы. Часам нават да вельмі цяжкой работы ішлі без мяса. Елі галушкі бульбяныя з макам, бульбу з канопным і льняным семем і другія безмясныя стравы. Цукру ўжывалі вельмі мала. І добра, бо зубы ў людзей былі здаровыя. Старыя людзі гаварылі: хлеб, соль ды вада, то няма голада. Цяпер — з вадою асцярожна!

Ужо ў Канадзе ішоў „кіслы“ дождж, які хмары прынеслі з ЗША. А што будзе далей? Калі йдзе дождж, я заўсёды думаю, каб у ім не было замнога атруты. Сумная гэта праўда, але нічога не зробіш, так ужо ёсць, што разам з вадою на зямлю вяртаецца столькі атрутных газаў, колькі чалавек адправіў у космас.

**Аўрора**

Фота Юркі Трачука.



Аляксандр Сухоцкія — усе яны з вёскі Скрабля́кі, а яшчэ Васіль Казлоўскі з Бабро́ўнікаў. Былі, вядома, сувязнымі яшчэ і многія іншыя сяляне, аб якіх я дагэтуль яшчэ не даведаўся.

Вялі яны сябе ціпла і ціха, спецыяльна стараліся як найменш займаць увагу сваімі паводзінамі ў суседзяў, бо гэта пагражала выяўленнем іх сапраўднай дзейнасці. Але без дапамогі тых жа людзей атрад „Бацькі“ ды кожны іншы партызанскі атрад не праіснаваў бы нават паўгода.

То ж і гітлераўцы ў дурнях не хадзілі. Яны таксама ажыццяўлялі свае падкупныя метады. Ведалі, што лес найлепш ведаюць ляснічыя. Дык кожны ляснічы атрымоўваў загад, каб неадкладна, пад пагрозай суровага пакарання паведамляць у жандармерыю аб паяўленні „бандытаў“ на сваім участку.

Пішу я аб гэтым, бо трэба нам ведаць, што змаганне з акупантам вялося не толькі ў час збройных сутычак або баявых вылазак на чыгунку ці на дарогу. Яно праходзіла таксама на ціхім фронце псіхалагічнай вайны: хто каго перахітрыць.

Быў ужо 1943 год. Пачыналася лета. Партызаны праводзілі баявую вучобу, чым галоўным чынам займаліся даўнейшыя афіцэры Чырвонай Арміі. Партызаны адпраўляліся на баявыя заданні і вярталіся назад у атрад, як у свой родны дом, рыхтавалі ежу, палілі агонь, асабліва ноччу, калі не відаць дыму, а трэба хаця крыху абагрэцца...

Не цяжка сабе ўявіць, што хопіць аднаго тыдня гэтакай качоўкі сарака чалавек, каб асталіся незацертыя і здалёк прыкметныя сляды іх прысутнасці. Нават без прывучанага сабакі, па паху, можна было натрапіць на такую партызанскую стаянку.

Зразумеў гэта ўрэшце і сам камандзір „Грышка“ ды аддаў загад, каб адысці бліжэй Белавежскай пушчы. Затым яны накіраваліся яшчэ далей на ўсход, у партызанскую зону, дзе ўліліся ў буйнейшыя партызанскія групіроўкі, гісторыя якіх ужо вядомая і апісаная. Расказваў аб гэтым таксама Раман Мардань, калі мы разам з ім хадзілі яго партызанскімі сцежкамі.

На Беласточчыне гісторыя партызанскага руху на гэтым, аднак, не абарвалася. Тут пастаянна ўтвараліся новыя атрады народных мсціўцаў з мясцовага насельніцтва, або перабіраліся сюды партызанскія групы, атрады і цэлыя злучэнні аж з Беларусі.

Аб некаторых праявах гэтага руху супраціўлення ворагу мы яшчэ пагутарым, але ўжо восенню, пасля перапынку на водпуск. Тут яшчэ толькі прыгадаю, што Хведар Парфенюк, партызанскі камандзір атрада „Бацькі“, селянін і камуніст з вёскі Залукі, загінуў у час заўзятага, крывавага бою, калі гітлераўцы кінулі на партызан рэгулярнае войска, аб чым я таксама ўжо пісаў. Хай тады памяць аб ім астанецца ў народзе.

**Віктар Рудчык**

(Працяг са стар. 2)

# ДОМ-МУЗЕЙ У СТАРЫМ МІНСКУ

**Зараз і ў Мінску пачата праца па стварэнні музея „Дом Валенція Ваньковіча. Культура першай трэці 19 стагоддзя“, як аддзела Дзяржаўнага мастацкага музея БССР. Спецыяльнымі навукова-рэстаўрацыйнымі вытворчымі майстэрнямі распрацаваны праект узнаўлення, рэстаўрацыі і ўчынення экспазіцыі ў доме № 33-а на вуліцы Інтэрнацыянальнай. У працэсе збору экспанатаў, біяграфічнага і выяўленчага матэрыялу супрацоўнікі Дзяржаўнага мастацкага музея БССР сустрэліся з вялікімі цяжкасцямі. Творы майстра захоўваюцца ў Варшаве, Парыжы, Ленінградзе, Маскве, Вільнюсе.**

Спадзяемся, што калекцыянеры, аматары мастацтва дапамогуць у стварэнні „Дома Ваньковіча“. Дзяржаўны мастацкі музей БССР (220030 Мінск, вул. Леніна, 20) цікавіць усё, што звязана з імем Валенція Ваньковіча: карціны, малюнкі, гравюры і літаграфіі з яго твораў, пісьмы, кнігі, успаміны сучаснікаў, рэчы. Усё, што прадстаўляе яго эпоху: канец 18 — першую трэць 19 ст. Жывапісныя творы, гравюры і малюнкі Яна Дамеля (1780-1840), Іосіфа Аляшкевіча (1777-1830), Фадзея (Тадэвуша) Гарэцкага (1825-1868), Аляксандра Арлоўскага (1777-1832), Януарыя Сухадольскага (1797-1835), Вікенція Дмахоўскага (1807-1862). Мініяцюры, рускія і заходнееўрапейскія гравюры, пейзажы, кампазіцыі, прысвечаныя Напалеону і напалеонаўскім войнам. Творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва гэтага перыяду, мэбля, музычныя інструменты, розныя прадметы дваранскага побыту. Кнігі, альбомы нот I паловы 19 ст. выдання А. Міцкевіча, А. Пушкіна, А. Гарэцкага, М. Шымано́ўскай, К. Ліпінскага.

Гісторыя — не абстрактная навука, памяць аб мінулым настойліва патрабуе канкрэтнага здзяйснення. Няхай дом-музей таленавітага мастака беларускай зямлі стане вынікам творчай дзейнасці ўсіх, каму дарагая культура нашага народу.

**В. Буйвал,**
**загадчык аддзела Дзяржаўнага мастацкага музея БССР**

# СТУДЭНТЫ НА ПРАКТЫЦЫ

У пачатку ліпеня, як штогод, першы курс беларускай філалогіі адбываў пад кіраўніцтвам мгр. Н. Панасюк фальклорную практыку. Сёлета праходзіла яна ў невялікай вёсцы Катлоўка, у якую яшчэ не паспелі прыйсці ўсе дасягненні вялікага свету, у якой архітэктура, выгляд хат у сярэдзіне, а таксама адносіны між людзьмі засталіся ў вялікай ступені старадаўнімі. Студэнтаў галоўным чынам цікавілі старыя песні, прыказкі, прымаўкі, легенды.

Нягледзячы на вельмі кароткі час прабывання ў Катлоўцы і гарачы час працы ў сялян, назбіралі яны фальклорнага матэрыялу даволі многа. А гэта ўсё заслуга жыхароў вёскі. У Катлоўцы пакуль што фальклор жыве, а народныя песні, прыказкі вядомы не толькі людзям у гарадах. Нават некаторыя дзеці могуць расказаць легенду аб узнікненні назвы іх вёскі. У гэтым усім самым важным з'яўляецца факт вялікай прыхільнасці жыхароў Катлоўкі (старэйшых і маладых) да таго, што сваё, роднае. Цяпер ужо такіх вёсак мала. Тым больш годны яны пашаны і зацікаўлення.

**Я. Шостак**

# „ГОМА САПІЕНС“

6

Сёння ўразіў мяне знаёмы начальнік.

Калісьці мы з ім працавалі ў суседніх кабінетах. На два пакоі мелі адну кафлёвую печ, адзін тэлефонны апарат ды паўадзінкі тэхнічкі. Часам спрачаліся, а ўвогуле — ладзілі.

Чалавек, здаецца, і не падхалім, але так стараецца на службе, што „гатовы разбіцца ў дошку“. Не вітаецца з падначаленымі, яны люта яго ненавідзяць, абзываюць Будкай. Але на гэта ён — нуль увагі. Атмасфера ў яго на рабоце цяжкая. тым не менш ён і падначаленыя суіснуюць, як некалі мае аднавяскоўцы — з Абрамовічам ды Юраўцам.

Вяртаючыся сёння з Мінска дамоў, у аэрафлотаўскіх крэслах ляцелі мы з ім побач. Пагутарылі крыху аб надвор'і, а далей чыталі свежыя газеты.

Перад будынкам гродзенскага аэрапорта Будку чакала чорная „Волга“ з шафёрам, і мой знаёмы ў яе палез. „Цікава, — паспеў я падумаць, — калі пасунуся ў твой лімузін самавольна, прамаўчыш, бы дзядзька Юравец, ці вытнеш мяне чымнебудзь па вушах, як Абрамовіч?..“

Але машына ўжо рванула. Будка памчаў, не кіўнуўшы нават на развітанне.

„Дзядзька Якуб, — сказаў бы я для эксперыменту. — Вось ломік, палена і вашыя акуляры. Можна ўсё гэта назваць адным словам — інструмент? Як вы думаеце?“

„Вядома, штрумент!“ — адказаў бы ўпэўнена селянін.

„Які ж інструмент з кавалка дрэва?“

„Чаранок з яго зробіш да сякеры!“

„А — акуляры?“

„Як жа ты без іх выцешаш тапарышча, калі старыя вочы маеш? Усё — штрумент, напэўна!“

Будка і на такое пытанне трапна адказаў бы.

Ён з памяці напіша формулу рыбануклеінавай кіслаты, бо, не ў прыклад дзядзьку Якубу, мае дыплом, бываў нават за мяжой. Толькі веды, дыплом і раз'езды чамусьці не знялі ў яго абмежавальніка, не надзялілі чалавека той самай разыначкай, з-за якой мы і людзьмі робімся.

Яе, мабыць, нельга выкрасаць школьнай дрэсіроўкай. Нельга, мабыць, і пры дапамозе экзаменацыйных камісій, пасад, знаёмстваў. А без галоўнай рызыкі ты ўсё — абмежаваны пячорны чалавек, дзядзька Якуб, Юравец, брак.

**Аляксей Карпюк**




(Працяг са стар. 6)

мулы, можна сказаць, што даследчык беларускага фальклору Я. Карскі інтэрпрэтуе яе як „прадукт“ той гістарычнай эпохі, у якую нашы продкі займаліся галоўным чынам жывёлагадоўляй.

„Не менее интересное в бытовом отношении выражение: „Наш бык да к вашей телушке прывык“. Оно указывает на то время, когда народ вёл образ жизни кочевой, пастушеский, и не прочь отношения в мире животном переносить на свою жизнь“.

Здаецца нам, што да такой інтэрпрэтацыі праблемы можна дабавіць яшчэ тое, што ў тых адлеглых часах не толькі матэрыяльны ранг паасобных людзей, але таксама іх матэрыяльны прэсціж акрэсліваўся на падставе таго, якім стадам жывёл яны валодалі. Жывёльны эквівалент быў меркай духоўных вартасцей. Такі падыход да справы ўтрымоўваўся і ў міжваенны перыяд, яго дэвалюацыя наступіла ў часе акупацыі, калі немцы забіралі прымусовым шляхам жывёлу. У пасляваенныя гады адраджаецца аўтарытэт жывёлы, каб зноў падупасці ў часе прымусовых даставаў прадуктаў дзяржаве. Як сёння выглядае гэта справа, кожны ведае. Ва ўсялякім выпадку дамашняя жывёла страціла сваё першабытнае значэнне як азначнік духоўных каштоўнасцей і часта не толькі багатаму хлапцу не памагае ажаніцца, але яму перашкаджае.

**А. Баршчэўскі**

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Аддала дачушку, а сама буду, як гаюшка: ні дзяружкі, ні падушкі.

Ажаніцца — не ўпіцца.

Баба тады пышна, як замуж выйшла.

Без мяне мяне жанілі.




## ЗДРАДНІЦКАЯ РАСЛІНА

Вясною прырода цудоўная, летам — прыгожая і шчодрая. На гэтую прыгажосць ніхто не можа быць нячулы. Ні адзін жыхар ані горада, ані вёскі не можа абыякава прайсці каля лесу, гаю ці нават звычайнага хмызняку. Па ягады, па грыбы ці па арэхі ідзем цэлымі сем'ямі. І вельмі добра, што бярэм з сабою ў лес дзяцей. Дзеці надзвычай уражлівыя на прыгажосць і як найраней яны павінны пазнаваць таямніцы прыроды.

Але прырода не любіць негаспадарнасці і бяздумнасці. Прыйшоў у лес — збірай тое, што табе патрэбна, але нічога не нішч. Дзеці аб гэтым не ведаюць і часта могуць быць за гэта пакараныя. Першай карай можа стаць атручанне ягадамі. Вядома, бацькі, захопленыя знойдзеным ягадным месцам, россыпам грыбоў ці багаццем арэхаў, на момант забываюць аб усіх і аб усім. І такога моманту хопіць, каб дзіця знайшло і наелася атрутных ягад.

Найбольш здрадніцкімі з'яўляюцца ягады воўчага лыка (па-лаціне — Daphne mezereum, па-польску — wawrzynek wilcze łyko, па-руску — дафна, волчье лыко, волчник). З выгляду ягады нагадваюць чырвоныя парэчкі. Дзіця не ведае, што чырвоныя парэчкі ў лесе не растуць, і, калі мы яго аб гэтым не папярэдзім, можа быць бяда. З'едзеныя 10-15 ягад воўчага лыка выклікаюць моцнае атручанне. Дзіця адчувае колікі, слабне, мае пашыраныя зрэнкі, павышаецца тэмпература. Пры моцным атручанні могуць выступіць ваніты і страта прытомнасці. У гэтым выпадку абавязкова трэба як найхутчэй прамыць страўнік. Пакуль прыедзе лекар, падавайце дзіцяці лёд (з халадзільніка) і кісель.

Воўчае лыка мы можам сустрэць не толькі летам. Гэта адна з раслін, якія цвітуць вельмі рана. Ранняй вясною вабіць вока кожная кветачка, і хочацца яе сарваць і панюхаць. Аднак часам гэтае імкненне трэба стрымаць, асабліва тады, калі сустрэнем воўчае лыка. Яго лёгка пазнаць. Нездарма воўчае лыка называем яшчэ „раннім бэзам“. Кветкі гэтых дзвюх раслін вельмі падобныя і аднолькава цудоўна пахнуць. Аднак я не раіў бы цешыцца араматам воўчага лыка, бо гэта пагражае галавакружэннем і болем галавы.

Пры нагодзе варта звярнуць увагу на яшчэ адну акалічнасць. Некаторыя мяркуюць, што кветкі, на якіх „працуюць“ пчолы, не будуць атрутнымі. Думка гэтая правільная толькі ў некаторых выпадках. Напэўна нельга гэтага сказаць аб воўчым лыку. Гэта вельмі меданосная расліна, і пчолы ахвотна яе выкарыстоўваюць. І трэба ведаць, што і мёд, сабраны толькі з кветак воўчага лыка, трошкі атрутны. Можа ён стаць прычынай запалення слізістай абалонкі горла, страваводу ці страўніка.

Аднак кожная расліна мае сваё карыснае месца ў службе чалавеку. Так ёсць, лепш сказаць, было і з воўчым лыкам. Яшчэ нядаўна яго кара і сушаныя ягады выкарыстоўваліся ў народнай медыцыне. З іх рабілі кампрэсы пры лячэнні рэўматызму, параліча, алергіі і нерваболяў. Даўней кару воўчага лыка выкарыстоўвалі для фарбавання воўны на аліўкава-зялёны колер.

Ідучы з дзецьмі ў лес, трэба памятаць, што прывабіць іх можа не толькі ягада воўчага лыка, але таксама і ягадка вороняга вока (па-лаціне — Paris guadrifolia, па-польску — czworolist pospolity, па-руску — вороний глаз четырёхлистный). Падобна яна на чарніцу або на ландыш майскі (канвалія), можа таксама здацца дзіцяці чырвонай парэчкай.

Ёсць і іншыя атрутныя расліны. Варта аб гэтым памятаць, беручы дзяцей з сабою на вельмі карысны шпацыр у лес.

**Б. Паскробка**

Мал. Б. Альшэўскага





Воўчае лыка.



Вароняе вока.

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




**Мірэк Пракапюк з Пашкоўшчыны — шматразовы ўдзельнік конкурсаў беларускай песні для школьнікаў. Ён заўсёды займаў адно з першых месц.**
**Фота Я. Чэрнякевіч**

**Васіль Зуёнак**

## БУДЗЕМ СІЛЫ НАБІРАЦЦА

*Лета Юзю прывяло*
*На канікулы ў сяло.*
*Рады дзед і бабка рада,*
*Напякла стажок аладак:*
*— Еш, унучак, папраўляйся,*
*Сіл, унучак, набірайся...*
*Спалавініў Юзя „стог",*
*У цяньку спачыць прылёг.*
*Падрамаў на жываце —*
*Дзень да поўдня праляцеў,*
*Павярнуўся на спіну —*
*Дзень даўным-даўно мінуў.*
*Ранкам выйшаў у паход —*
*Аж за школьны агарод.*
*Толькі ж трэба так, скажыце:*
*Заблудзіўся Юзя ў жыце,*
*Не відаць ні хат, ні сонца.*
*Нібы ў джунглях тых*
*бясконцых,*
*Крочыў Юзя так і гэтак,*
*Вызначаў напрамкі свету,*
*Бабку, дзеда*
*Небарака*
*Клікаў, клікаў і заплакаў:*
*— Не бадзяцца, не стамляцца —*
*Ехаў сілы набірацца.*
*Дык нашто ж,*
*Нашто я лез*
*У дрымучы гэты лес!..*
*Працаваць хлапцы ішлі*
*Юзю беднага знайшлі*
*І сказалі:*
*— Годзе хныкаць,*
*Лепш вазьмі-тка, брат,*
*матыку, —*
*Папрацуем у ахвоту*
*Ды ў футбол згуляем потым,*
*Загараць пачнем, купацца, —*
*Будзем сілы набірацца!*

**Павел Місько**

## ТРАМБОН І ШУШКА

У Шуркі-Шушкі вялікі сакрэт. Гаварыць ці не гаварыць пра яго свайму сябру Антону-Трамбону? Не скажы — пакрыўдзіцца, прамаўчы — можна самому разарвацца на кавалкі. Бо „сакрэт" — бы жывы, так і расце недзе ўсярэдзіне, як на дражджах, перапаўняе ўсяго. Аднаму бегчы па той „сакрэт" — сумна. Удвух — шкада дзяліцца...

Уздыхаў Шурка, пакутаваў, месца сабе не знаходзіў. І рашыўся...

— Слухай, што я чу-у-уў... — Шушка так доўга цягнуў „у-у-у", нібы вучыўся выць на месяц. — Дзед Патап казаў — карасі ў сажалцы, у садзе, вырaслі! Іду, кажа, а яны — плюх, плясь! Гэта ён сваёй бабе казаў, а я падслухаў.

— Мо якая жаба скокнула. Ніхто ж туды малявак не запускаў, — спакойна сказаў Трамбон.

— Ну й даеш! Ды яны самі заводзяцца, абы вада была! От вазьмі вялікія начоўкі або цэбар, патрымай ваду ўсё лета, паглядзіш — а там рыба!

— Ха-ха-ха! Мо акула? — не вытрымаў Трамбон.

— Каб я так жыў! — Шушка пастукаў сабе ў грудзі мурзатым кулаком. — Ніхто пра рыбу яшчэ не ведае, ух і хапнем!

— У мяне ёсць вудачка. Давай заўтра раненька, да кароў скокнем туды, праверым.

— Хо, у мяне мо дзесяць, ну і што? Да заўтра Патап павыцягвае. Апярэдзіць трэба. Сёння давай! Зараз жа!

— Удзень рыба не бярэцца. Дый у школу трэба!

У школу і спазніцца можна. Школа, не рыба, нікуды не дзенецца.

Праз колькі хвілін хлапчукі прабіраліся да Патапавага саду.

— І вудаў набраў, і кош валачэш. Нашто ён? — спытаў Трамбон.

— Пакуль ты будзеш драмаць над адной, я — хап, хап, хап. Трыма вудачкамі — у тры разы больш шанцаў. А не будзе брацца — з кашом залезу. Каб без промаху! Каб не вяртацца з пустымі рукамі.

Трамбон выбраў лапінку між кустоў на беразе, разматаў вудачку, начапіў хлебны шарык і закінуў лёску. Чуў, як цераз куст ад яго ўспамінае ўсіх чарцей і блытаецца ў сваіх вудачках Шушка. Нарэшце ў яго свішча вудзільна, пляскае па вадзе.

— Ты на што ловіш? Таксама на хлеб? — выкрыквае ён з-за куста. — А паплёўваеш на яго?

— На хлеб пляваць грэх. Ой, у мяне тут такія жучкі-блiскучкі...

— Не будзеш пляваць на прынаду, рыба на цябе плюне, — не сціхае Шушка, і Трамбон не вытрымлівае:

— Памаўчы ты! І не скачы як на вуголлях.

Але Шушку не сядзелася і не стаялася. Увесь хлеб скрышыў на падкормку, а карасі не бралiся.

— Гэй! — зноў гукнуў ён Трамбону. — Ты які хлеб узяў?

— Белы, — шэптам адказаў Трамбон і зняў маленькага, як два пятакі, карасіка.

— А я — чорны. Чуеш? Кінь мне кавалак.

Трамбон перакінуў цераз куст кавалачак.

— У-у-у, скнара. Гэта ж усяго на раз у рот.

— Каму? Табе?

— Рыбе. А ты што, шкадуеш даць больш?

Трамбон нічога не адказаў, ён у гэты час здымаў другога, на пaўдалонькі карасіка.

— У-у-у, хітры, — зноў азваўся Шушка. — Выбраў сабе лепшае месца.

— Хочаш, давай памяняемся.

— Ага, я тут прыкарміў, а ты на гатовенькае прыйдзеш.

— Ну дык маўчы і лаві.

— Каб жа лавіліся... Эх, трэба было лепш на рэчку ісці. Там рыба дык рыба, а тут...

Трамбон маўчаў, сядзеў нерухома. Рука з вудачкай ажно знямела. Паплавок у ягоківаўся, ківаўся і... зноў коса нырнуў пад ваду.

— Чуеш? — гукнуў у гэты час Шушка.

Трамбон паспяшаўся тузануць вудачку, і рыба сарвалася.

— Чаго цябе зноў дрэнчыць? — разла450ваўся ён на Шушку.

— Давай памяняемся месцамі. Толькі дай у прыдачу двух сваіх карасёў. Я ж месца прыкарміў!

— Тфу, каб цябе... Бяры!.. Ідзі... Карасі во, у траве... — Трамбон падымае вуду, ловіць леваю рукою кручок з хлебным шарыкам і ідзе на месца Шушкі.

А той пахапаў свае вудачкі, задраў іх як мага вышэй, каб не ўчапіцца кручком за куст. Але ўсё роўна ўчапіўся: адным кручком за галінку куста, другім — за свой каўнер.

**(Працяг на стар. 10)**



**Дашкольная група дзяцей са школы ў Махнатым.**
**Фота Я. Чэрнякевіч.**

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

## СКАКАЛКА

— Юлька, Юлька, — клічуць сяброўкі, — хадзі гуляць!

Дзяўчынка моўчкі сядзіць на ганку, не адгукаецца.

„Якая гэта гульня без скакалкі? — думае Юлька. — Чакай, пакуль хто-небудзь наскачацца, і прасі: дай паскакаць".

Колькі ні шукала скакалку, не знайшла. Бобік вінаваты. Куды ён, жулік, яе завалок?

Учора Юлька скакала ў сябе на двары. Падбег Бобік, захацеў, відаць, таксама пераскочыць праз вяровачку. Зачапіўся доўгімі нагамі і палядеў кубарам. Які няўклюдны!

Хутчэй за ўсё ў яго растуць вушы і лапы. Вушы звісаюць на вочы, а лапы за ўсё чапляюцца. Але Бобіку хоць бы

**(Працяг на стар. 10)**

Іван Сінявускі

# ВАСЬКА

Я збіраўся пайсці на раку, калі нечакана да нас прыбег Пеця. Ён быў такі ўсхваляваны, што спачатку не мог сказаць ні аднаго слова.

— Міша, зноў шкарлупку знайшлі... Бяжэм, — нарэшце вымавіў ён і ў тую ж хвіліну знік за дзвярыма. Я кінуўся следам.

Мы пералезлі цераз плот, абышлі высокую густую крапіву і пабеглі між град да вялізнага будынка. У гэтым будынку пад дахам вяліся нашы галубы. Усю зіму мы кармілі іх хлебнымі крошкамі, а вясною пабудавалі ім хаткі. Галубы так асвойталіся, што мы бралі іх у рукі, садзілі сабе на плечы і маглі хадзіць так з імі па двары.

І вось нейкі злыдзень знішчае іхнія яйкі. Пазаўчора знайшлі шкарлупкі, сёння — зноў.

На галубятні мы засталі ўжо бялявую, з тонкімі, як мышыныя хвосцікі, коскамі Святлану. Яна паказала на далоні сіняю з цёмнымі крапінкамі шкарлупку і сказала:

— Вось тут на зямлі валялася...

Я агледзеў шкарлупку: было ясна, што нехта разбіў галубінае яйка.

— І хто б гэта мог зрабіць? — уголас падумаў я.

— Па-мойму, гэта Васькава работа, — выказала здагадку Святлана.

— Яго, яго, — насупіўся Пеця.

Я ўспомніў, як летась Васька разбурыў ластаўчына гняздо, і вырашыў: „За такое трэба Ваську правучыць..."

— Вы не ведаеце, дзе ён зараз? — запытаўся я.

— Дома, — ажыўлена загаварыў Пеця. — Я толькі што бачыў яго на вуліцы. Ды вунь ідзе...

Мы са Святланай глянулі ў той бок, куды паказаў Пеця, і сапраўды ўбачылі Ваську. Ён ішоў па вуліцы і пастукваў палачкай па частаколу.

— Васька-а! — гукнуў я.

Ён спыніўся, аглядзеўся і зноў пакрочыў сваёю дарогай. Тады мы паклікалі яго ўсе разам. Васька, не спяшаючыся, падышоў да нас.

— Гэта чыя работа? — адразу накінуліся мы на яго, паказаўшы шкарлупку.

— А я адкуль ведаю? — паціснуў плячыма Васька.

— Твая?! — рэзка накінуўся на яго Пеця.

— Не! — стаяў на сваім Васька. Ён моршчыў вяснушкавы нос-кірпаўку і часта плюскаў вачыма. І Святлана пашкадавала яго.

— Можа і не ён, — заступілася яна.

— Можа і ластаўчыны яйкі ён не разбіваў? — напомніў Пеця.

— Тыя пабіў я, а галубіныя — не, — прамовіў Васька.

— Добра, ідзі, — сказаў я яму. — Толькі мы ўсё роўна дазнаемся, хто робіць такое паскудства.

— Дазнавайцеся, але я не вінаваты.

Васька пайшоў. А мы парашылі паставіць варту. Сёння буду сачыць за галубятняй я, заўтра — Святлана, паслязаўтра — Пеця, потым зноў я...

Так прайшоў дзень, другі, трэці — злодзей быў у нашых руках.

Гэта здарылася пад поўдзень. Я толькі што загнаў у хлеў кароў, як раптам пачуў на галубятні мітусню і крык:

— Лаві яго!.. Лаві!..

Я кінуўся на галубятню і вось што ўбачыў: Пеця трымаў за шыю чорнага вялікагаката Ваську, які тапырыўся і шыпеў, а Святлана махала рукой. З указальнага пальца ў яе цякла кроў.

— З зубоў у Ваські вырвала, — абурана прамовіў Пеця і паказаў на разбітае галубінае яйка, якое ляжала ў яго ля ног.

Я выняў з кішэні хусцінку і завязаў Святлане палец, а потым мы сталі судзіць Ваську-разбойніка.

— Давайце занясём яго ў лес, — прапанаваў Пеця.

— Там жа ваўкі, — напомніла Святлана, — яны могуць яго з'есці...

Пакуль мы гадалі-думалі, як пакараць злодзея і разбойніка, да нас прыйшоў хлапчук Васька.

— Якую кару прыдумаць кату?.. — спыталі мы ў яго.

Васька зморшчыў вяснушкавы нос-кірпаўку, часта заплюскаў вачыма.

— Аддайце ката мне, — папрасіў ён. — Я занясу яго дадому і навучу лавіць мышэй.



## Пішуць школьнікі

### ПІСЬМЫ З САВЕЦКАГА САЮЗА

* * *

**ПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ!**

*Пішуць вам Галя Галаўня і Іра Калеснікава з далёкага Зауралля. Мы жывем у сяле Дабравольнае і вучымся ў Бяро-заўскай сярэдняй школе. Наш школьны краязнаўчы музей дапучыў нам збіраць гісторыю нашага сяла. У вас напэўна ўзнікне пытанне: пры чым тут наш горад, калі ён знаходзіцца ў тысячах кіламетраў ад Зауралля. Справа ў тым, што наш зямляк Сцяпан Архіпавіч Пракапюк загінуў у вашым горадзе Беластоку, у першы дзень Вялікай Айчыннай вайны. Мы вельмі хацелі б знайсці тых людзей, якія сустракаліся з С. А. Пракапюком ці служылі з ім у арміі. Няхай адгукнуцца на наша пісьмо школьнікі, якія ведаюць нешта пра нашага земляка ці маюць нейкія дакументы аб ім у сваіх школьных краязнаўчых музеях. Мы вельмі хацелі б даведацца, дзе пахаваны наш зямляк. Наш адрас: СССР, 641468, Курганская обл., Куртамышский район, д. Добровольное, Головня Гале.*

* * *

**ПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ!**

*Піша Вам Уладзімір Грэбцоў з СССР. Я цікаўлюся гісторыяй і сённяшнім днём Польскай Народнай Рэспублікі. Я рэгулярна чытаю журналы, якія выдаюцца польскім консульствам у СССР „Польша" і „Ванда". Слухаю рэгулярна радыёперадачу „Гаворыць Варшава". І наогул я хачу як найбольш ведаць пра вашу краіну. Я вельмі хацеў бы перапісвацца са сваімі равеснікамі ў Польшчы. Мне 14 год, займаюся спортам (валейбол і плаванне), цікаўлюся гісторыяй славянскіх народаў.*

**З прывітаннем**

**Уладзімір Грэбцоў**

*Мой адрас: СССР, 346500, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Советская, 231, кв. 8. Гребцову Владимиру.*

## Вясёлы куточак

* * *

— Мама шыла мне сёння кашулю, а я ёй дапамагаў.

— І што ты рабіў?

— Сядзеў ціха.

* * *

— Як у цябе справы з геаграфіяй?

— Я найсільнейшы ў класе.

— Няўжо.

— Безумоўна. Я ж заўсёды з настаўніцай прыношу ў клас вялікі глобус.

(Працяг са стар. 9)

### СКАКАЛКА

дзічкі. Падскочыў, падбег да Юлькі, пачаў ласкацца. І што ж? Бруднымі лапамі пабрудзіў белую сукеначку.

— Ідзі адсюль!

Юлька адпіхнула Бобіка і пачала выціраць плямы. Ды ці выцраш?

Аглянулася, а Бобіка няма. Гэта яшчэ нічога, але і не было на сцежцы новай блакітнай скакалкі з бліскучымі ручкамі.

Пабегла Юлька да хлява, да дрывотні, на сенавал. Потым у агарод. Нідзе няма.

Бобік прыбег праз гадзіну-другую, але, вядома, без скакалкі.

Вось і сядзіць Юлька адна на ганку і сумуе.

А дзяўчаткі гуляюць на вуліцы ды пасмейваюцца:

— Бобік з тваёй скакалкай скача...

Добрыя жарцікі...

І раптам глядзіць Юлька, з-за хлява выбягае Бобік і нешта цягне.

— Бобік, Бобік, да мяне! — уцешылася Юлька.

Шчанюк нёс у зубах скакалку. Блытаўся ў ёй і зноў цягнуў. Мабыць, пабачыў, што Юлька сядзіць сумная. Зразумеў чаму і прынёс.

Юлька пагладзіла шчанюка і пабегла да сяброvак. А спераду з моцным радасным брэхам нёсся Бобік.

**А. Паскробышаў**

(Працяг са стар. 9)

### ТРАМБОН І ШУШКА

Пакуль адчэпліваўся (даваліся скідаць кашулю), разблытаў лёскі, закідваў вудачкі, Трамбон аднаго за адным выцягнуў яшчэ двух карасёў — большых, чым тыя два. Шушка нерваваўся, соп, чмыхаў, скоса паглядваў на сябра. А Трамбон яшчэ і пацвельваўся:

— Бачыў? Хто мяняе, у таго хамут гуляе. Ух, і карасішчы! Падраслі на тваёй падкормцы.

Працяг у наступным нумары

## ·А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А·





**Пагладзіце на гэтую вясёлую дзяўчынку і навучыцеся яе маляваць. Калі ўжо на вашым малюнку выйшла яна прыгожа, размалюйце дзяўчынку каляровымі алоўкамі: усе трохвугольнічкі — сінім, усе прамавугольнічкі — жоўтым, а ўсе кружкі — аранжавым. Вясёлай забавы!**



Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Piątek 9 VIII** — 9.00 Domator „Reksio czyścioch". 9.10 Teleferie: „Wakacje z komputerem", „Rozalka Olaboga" (6). 10.10 Domator. 10.30 DT. 10.40 Film dla II zmiany: „Kryptonim Trianon" (2) radz. film fab. 11.50 Domator „Życie od kuchni" — „Letnie napitki". 17.15 Program dnia. 17.20 DT. 17.30 Studio Lato. 19.00 Dobranoc: „Pająk chwat — wszystkich brat". 19.30 Dziennik. 20.00 Monitor Rządowy. 20.30 „Kryptonim Trianon" (2) radz. film fab. 21.35 Żniwa 85. 21.45 DT. 22.15 Studio Lato. 22.45 Teatr Małych Form „Śnie, który uczysz miłowania..." 23.10 Mistrzostwa Europy w pływaniu. 23.40 DT.

**Sobota 10 VIII** — 8.25 Program dnia. 8.30 Tydzień na działce. 9.00 Kino Teleferii: „Dziewczyna i chłopak" (6) „Tomek i Tosia". 9.45 Gdzieś na krańcach świata. 10.10 Zespół „Syrbary". 10.30 DT. 10.40 Letni przegląd Teatru TV: Z. Nałkowska — „Granica". 11.55 Przegląd ludowych zespołów artystycznych. 12.10 Muzea i Galerie — Łańcut. 12.40 Poradnik rolniczy. 13.10 Muzyczny portret — Jadwiga Romańska. 13.40 Klub 6 kontynentów. „Pierwszy Polak w Japonii". 14.30 „ORP Warszawa" — rep. film. 15.00 DT. 15.10 Lista przebojów. 15.30 Trybuna Sejmowa. 16.00 Wielka miłość Balzaka (2) „Cudzoziemka" — serial TP. 16.55 Ocalić od zapomnienia. 17.25 I liga piłki nożnej. 18.15 Losowanie D. Lotka. 18.25 Świat z bliska. 19.00 Dobranoc: „Bolek i Lolek na wakacjach". 19.10 Z kamerą wśród zwierząt. 19.30 Dziennik. 20.00 Przedział morderców — franc. film krym. 21.30 Czas. 22.00 DT. 22.05 Sopot 84 — Alfredo Rodriquez. 22.30 Studio Sport. 22.35 Rzecz niesamowita — ang. film fab.

**Niedziela 11 VIII** — 7.55 Po gospodarsku. 8.15 Program dnia. 8.20 Tydzień. 9.00 Kino Teleferii. 10.15 Estrada folkoru. 10.30 DT. 10.35 Zapomniana podróż — ang. film dok. 11.50 Jarmark Dominikański zaprasza. 12.25 Siedem anten. 13.25 Kraj za miastem. 13.50 Tandeta na polskim targu. 14.15 Koncert życzeń. 15.00 DT. 15.10 Program dnia. 15.15 O czym się nie mówi — polski film dok. 17.00 Jarmark Dominikański zaprasza. 17.30 Studio Sport. 18.20 Antena. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.00 Diana — ang. film ser. 20.50 Jarmark Dominikański zaprasza — teatry uliczne. 21.15 Klub międzynarodowy. 21.50 Leksykon polskiej muzyki rozrywkowej „M". 22.25 Sportowa niedziela. 23.25 DT.

**Poniedziałek 12 VIII** — 17.15 Program dnia. 17.20 DT. 17.30 Studio Lato. 19.00 Dobranoc. 19.10 Warto było cz. 1. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 Teatr tel. 22.00. Żniwa 85. 22.10 DT. 22.35 Studio Lato. 23.05 Pegaz. 23.45 DT.

**Wtorek 13 VIII** — 9.00 Domator — Reksio — odc. „Reksio aktor". 9.10 Teleferie „Beznudna wyspa", „Pszczółka Maja". 10.05 Domator. 10.30 DT. 10.40 Układ krążenia — film TP. 12.00 Brazylia nieznana — Nad Igusu — film dok. 17.15 Program dnia. 17.20 DT. 17.30 Studio Lato. 19.00 Dobranoc. 19.10 Warto było (2). 19.30 Dziennik. 20.00 Czas wyborów. 20.30 Układ krążenia — film TP. 21.50 DT. 22.10 Informator wydawniczy. 22.30 Studio Lato. 23.00 Kontakty. 23.30 DT.

**Środa 14 VIII** — 9.00 Domator w nim „Reksio". 9.10 Teleferie. „Krąg". 9.40 Kino teleferii: „Znak orła". 10.10 Domator. 10.30 DT. 10.40 Główna wygrana — film CSRS. 11.30 Minispectrum. 17.15 Program dnia. 17.20 DT. 17.30 Studio Lato. 19.00 Dobranoc. 19.10 Warto było cz. III. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.45 Główna wygrana — film CSRS. 21.35 Żniwa 85. 21.45 DT. 22.10 Studio Lato. 22.40 Z Polski rodem — progr. publ. 23.10 DT.

**Czwartek 15 VIII** — 9.00 Domator w nim „Reksio". 9.10 Kino Teleferii „A to heca". 10.25 Domator — porady. 10.30 DT. 10.40 Gwiazda poranna — film KRLD. 12.00 Domator. 16.55 Program dnia. 17.00 Wojskowy program dokumentalny. 17.20 DT. 17.30 Studio Lato. 19.00 Dobranoc. 19.10 Warto było cz. IV. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 Teatr tel. „Kat czeka niecierpliwie" cz. II. 21.15 DT. 21.35 Rzemieślnicy. 21.50 Studio Lato. 22.20 Zawsze po 21-szej. 23.00 DT.

## КІНО

**Bielsk Podl.** Pętla Oriona — radz. 12. Butch Cassidy i Sundance Kidd — USA 13—15. Goście z Galaktyki Arkana — jug. 16—18.

**Czeremcha.** Żółta róża — rum. 14. Wampir z Feratu — czes. 17—18.

**Czyże.** Mistrz boksu — rum. Akcja pod Arsenałem — pol. 14—18.

**Gródek.** Wystarczy być — USA 17—18.

**Hajnówka.** Superpotwór — japoń. 12—13. Amok — marok. 14—15. Czuję się świetnie —pol. 16—18.

**Michałowo.** 24 godziny w deszczu — bułg. 13—14. Wystarczy być — USA 15—16. Koncert — pol. 17—18.

**Mielnik.** 1941 — USA 14—15. Bez znieczulenia — pol. 17—18.

**Milejczyce.** Rozumiemy się bez słów — czes. Na rabunek — radz. 14—18.

**Narewka.** Narzeczona — NRD. Dom pod czerwoną latarnią — węg. 14—18.

**Nurzec.** To ja zabiłem — pol. 14. Barwy ochronne — pol. 15—16. Strach pol. 17—18.

**Orla.** Zabić drapieżnego ptaka — rum. Tyranowska caryca — bułg. 14—18.

**Rajsk.** Sabina Wulff — NRD. Filip z konopi — pol. 14—18.

# ШТО-ДЗЕ-КАЛІ

### „ГРАНІЦА" НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Мілую неспадзеўку зрабіў жыхарам некалькіх мясцовасцей на Беласточчыне эстрадны ансамбль Войск аховы пагранічнай паласы „Граніца". Ён на пераломе чэрвеня і ліпеня г.г. даў бясплатныя канцэрты ў Аўгустове, Сейнах, Беластоку, Гарадку, Гайнаўцы і Белавежы. Была гэта падзяка за помач пагранічнікам, аказаную мясцовым насельніцтвам, і адначасова заахвочванне да далейшага супрацоўніцтва з пагранічнымі пляцоўкамі.

Ансамбль усюды сустракалі з энтузіязмам. Людзям вельмі спадабаліся вайсковыя песні, танцы і скетчы. Канцэрты глядзелі таксама ўдзельнікі турысцкіх лагераў, экскурсанты.

У Белавежы вялікая зала інтэрната Лясного тэхнікума з трудом памясціла ўсіх ахвотных паглядзець выступленне „Граніцы". Артысты атрымалі ў падзяцы за канцэрт кветкі, зуброўку і сімвал пушчы — выразанага ў дрэве зубра.

**П. Байко**

(Працяг са стар. 2)

### АБ ПРАМІНАННІ

Можам прыняць тэарэтычны тэзіс аб тым, што ў будучым людзі масава будуць жыць да 150 гадоў. І што з гэтага вынікае? Ці ў 150 гадоў не таксама, як і мы сёння, жывучы 70-80 гадоў, будуць яны ўспрымаць набліжэнне смерці? Нават калі б чалавек жыў у пяць ці дзесяць разоў даўжэй, усё роўна здавалася б яму, што жыў нядоўга і што варта было б яшчэ пажыць. Аднак так доўга яму жыць не паложана. Гэту справу рэгулюе якраз час і прамінанне, якому мусіць падпарадкавацца ўсё жывое на Зямлі. Прамінанне вечнае і таму ў істоце сваёе. Ёсць яно законам, якога нельга ні ашукаць, ні абыйсці. Яно над намі і мы яму падпарадкаваны. Хто ведае, быць можа, што прамінанне гэта Бог Бог суровы, але пры гэтым непадкупны і справядлівы.

**Алесь Барскі**

### НА ІВАНА

7 ліпеня вялікае свята ў Пасынках. Ля царквы натоўп народу. Столькі самаходаў стаіць праз усю вёску ўздоўж вуліцы, што цяжка прабіцца. Для дзяцей ёсць цукровая вата і марожанае. У поўдзень крыху праясняецца неба. Ля царквы зайграла сонейка. Свяшчэннік збірае ахвяру „на царкву ў Чыжах".

Пасля службы еду да брата ў Петухоўку. За Пасынкамі ўжо паліквідавалі дзіркі на дарозе, прыемна ехаць. Пры братавым доме на электрычным стаўбе малады бусел. Братовая кажа, што былі тры бусляняты, але двух выкінулі з гнязда, бо цяпер не было б чым іх выкарміць усіх, на лугах няма жаб (лугі асушылі). Шкада мне бусло́ў, што так церпяць, не маюць чаго есці. Бедныя, злятаюць з гнязда і з курамі ядуць тое, што гаспадыня дае. Цывілізацыя не адно дабро прыносіць.

У хаце я не застаў 90-гадовага дзядка. Памёр зімою, калі была вялікая мяцеліца. Вяртаючыся, дыхаю цудоўным пахам сасновага лесу. За лесам на пэгээраўскім полі ўсходы гарох, а з другога боку ячмень — наліваюцца вялікія каласы. Яшчэ пару метраў — і я дома. На лаўцы сядзіць бабуля Ядоля. Кліча мяне і пачынае распытваць, як было на празніку, ці многа бацюшкаў і людзей з'ехалася.

**Андрэй Гаўрылюк**




Паведамляем, што рашэннем Галоўнага праўлення РСВ „Прэса-Кніжка-Рух" ад наступнага нумара цана „Нівы" ўзрастае на 2 зл. і адгэтуль будзе каштаваць 10 зл.

Адначасова паведамляем, што ўсе падпісчыкі будуць атрымліваць „Ніву" па старой цане да сканчэння тэрміну падпіскі.

### МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132.

У замежнай валюце Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5018-24325-151-6787.

Спісак чарговых ахвяравальнікаў:

| | | |
|---|---|---|
| 273. | **Галіна Каханская (Нурэц)** | — 100 зл. |
| 274. | **Мікалай Ігнацюк (Рыбалы)** | — 100 зл. |
| 275. | **Ваяводскі кааператыў інвалідаў „Аднова" ў Беластоку** | — 10000 зл. |
| 276. | **Гмінны кааператыў „Сялянская самадапамога " ў Боцьках** | — 3000 зл. |
| 277. | **Гмінная ўправа ў Дубічах Царкоўных** | — 10000 зл. |
| 278. | **Дарыюш Фіонік (Бельск Падляшскі)** | — 1000 зл. |
| 279. | **Пачатковая школа ў Рыбалах** | — 4100 зл. |
| 280. | **Падляшскае спажывецкае прадпрыемства. Кааператыў працы ў Беластоку** | — 1000 зл. |

Дзякуем.

Паведамляем таксама, што цэнтры збірання экспанатаў для музея знаходзяцца ў наступных месцах:

у Пачатковай школе ў Рыбаках, гміна Міхалова.
у будынку былога ПЗГС у Гайнаўцы,
у клубе БГКТ у Бельску, вуліца Міцкевіча 50/54,
у клубе БГКТ у Гайнаўцы, вуліца Вызвалення 6,
у Гмінным камітэце ПАРП у Мілейчыцах,
у Саколцы, вуліца Варынскага 1,
у ГП БГКТ у Беластоку, вуліца Варшаўская 11.

Чакаем экспанатаў або інфармацыі аб месцы іх знаходжання.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ

III пленум ГП БГКТ • Слава Кожына • М. Куптэль дыхае палемікай • Алесь Барскі абагаўляе прамінанне • Весткі з Беларусі • Пра рэйд „Бацькаўшчына" • Анюціны вочкі, зязюльчыны слёзкі • Легенды нашай зямлі • Пра вялікае свята • На званіцы сучасная моладзь • Франтавы дзённік Аляксея Карпюка • Парнасік • Вер — не вер • Б. Паскробка пра след белага чалавека • Кагары Грабарцы • Куток практычных ведаў • Для дзяцей — „Зорка" • Што-дзе-калі • Гумар

## — КАЛЯНДАР —

**600 гадоў назад**

14.8.1385 заключана Крэўская унія.

**85 гадоў назад**

15.8.1900 нар. Я. Бжэхва, польскі паэт.

**40 гадоў назад**

14.8.1945 капітуліравала Японія.

**30 гадоў назад**

12.8.1955 пам. Т. Ман, нямецкі пісьменнік.


# Ніва

**ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА**

**Галоўны рэдактар**
**Георгій Валкавыцкі**
**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

„Niwa"
ul. Wesołowskiego 1
15-950 Białystok skr. poczt. 149
tel. 232-41

Wydawca Białostockie Wydawnictwo Prasowe. 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Druk Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku. Cena prenumeraty kwart 104 zł; półr. 208 zł; rocznej 416 zł.

**WARUNKI PRENUMERATY:**

1. dla osób prawnych — instytucji i zakładów pracy:
   - instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miastach wojewódzkich i pozostałych maistach, w których znajduje się siedziba Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" zamawiają prenumeratę w tych Oddziałach:
   - instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" i na terenach wiejskich opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli:
2. dla osób fizycznych — indywidualnych prenumeratorów:
   - osoby fizyczne zamieszkałe na wsi i w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli,
   - osoby fizyczne zamieszkałe w miastach — siedzibach oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych nadawczo-oddawczych właściwych dla miejsc zamieszkania prenumeratora. Wpłaty dokonuja używając „blankietu wpłaty" na rachunek miejscowego Oddziału RSW „Prasa-Książka-Ruch".
3. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 23, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie Nr 1153-201045-139-11 Prenumerata ze zleceniem wysyłki za granicę pocztą zwykłą jest droższa od prenumeraty krajowej o 50 proc. dla zleceniodawców indywidualnych i o 100 proc dla zlecających instytucji i zakładów pracy

Termin przyjmowania prenumeraty na kraj i za granicę:
- do dnia 10 listopada na I kwartał i półrocze roku następnego oraz cały rok następny,
- do dnia 1 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty roku bieżącego.

Zam. 1366/85 r. Nakład 3.500. G-6

З армянскага народнага гумару

# ХЛУСНЯ МЕЛІКА* І ПУЛУ-ПУГІ

Аднойчы Мелік дамовіўся з Пулу-Пугі: калі Пулу-Пугі будзе пацвярджаць усё, што ні схлусіць Мелік, — той абавязваецца выплачваць яму па пятачку за кожную хлусню.

І вось у Меліка сабраліся шаноўныя госці. Яны расказалі пра свае геройскія подзвігі на вайне і незвычайныя прыгоды на паляваннях.

Мелік таксама расказаў гісторыю пра тое, як ён адной куляй параніў аленя ў задні капыт і вуха. Госці рассмяяліся з гэтай відавочнай хлусні. Нельга, казалі яны, параніць аленя адначасова ў вуха і ў капыт задняй нагі.

— Дарэмна вы смяецеся, — умяшаўся Пулу-Пугі, — тут няма нічога неpraўдападобнага. Мелік выстраліў у аленя якраз тады, калі алень задняй нагой чухаў за вухам.

Усе пагадзіліся з Пулу-Пугі і паверылі Меліку.

Калі госці пайшлі, Пулу-Пугі звярнуўся да Меліка:

— Няхай доўгім будзе жыццё тваё, Мелік, але за адзін пятачок я не магу пацвярджаць такую несусветную хлусню: ці плаці больш, ці менш хлусі.

* Мелік — памешчык








## У ЗАДРЫПКОЎСКІХ

— Доктар, — звяртаецца пані Задрыпкоўская да псіхіятра, — у майго мужа манія, што ён халадзільнік.

— Не хвалюйцеся, — супакоіў яе лекар, — гэта бяскрыўдная манія.

— Бяскрыўдная? Ён цэлую ноч спіць з разяўленым ротам, у ім гарыць лямпачка, і святло ад яе не дае мне заснуць.

## ЯК АБРАДАВАЦЬ ЖОНКУ

— Нават не ведаю, які падарунак падрыхтаваць сваёй жонцы, каб ён быў не вельмі дарагі і каб адначасова яе абрадаваў.

— Напішы ёй ананімнае любоўнае пісьмо.

## МІКОЛКА

У малочным магазіне Міколка падае прадаўшчыку збан і гаворыць:

— Калі ласка, наліце мне літр малака.

Прадаўшчык наліў малако ў збан і пытае:

— А грошы ў цябе ёсць?

— Так. Яны ў збане.






Яго сталым пунктам апоры была буфетная стойка.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Было ў жанчыны тры дачкі. Выйшлі яны замуж. І захацела жанчына праверыць, якіх яна мае зяцёў. Пайшла да першай дачусі. Паглядзела, паназірала ды й кажа: „Іду я тапіцца". Толькі ў ваду, а зяць тут як тут — выратаваў. Прыходзіць ён дадому, а на панадворку — „Запарожац" і запіска: „Міламу зяцю ад цёшчы".

Пайшла тая жанчына да другой дачкі. Надоўга разглядала і зноў — тапіцца. Выратаваў і гэты зяць. Прыходзіць дадому, а на панадворку — „Масквіч" і запіска: „Міламу зяцю ад цёшчы".

Урэшце, пайшла да трэцяй дачкі. А неўзабаве — тапіцца. Зяць глянуў на гэты спектакль ды толькі махнуў рукою. Прыходзіць з працы ўвечары, а на панадворку — „Волга" і запіска: „Міламу зяцю ад любячага цесця!"

## РЭВІЗІЯ

— Навіну не чула, Лора?
Да нас едуць рэвізоры...
Ды не трэба хвалявацца:
Будуць тут
дзянькоў праз
дваццаць.
Дзе падчысцім,
дзе падгладзім —
З рэвізорамі паладзім!
— Скуль табе вядома, Соня?
— Пазванілі самі
сёння.

**Віктар Рэчыц**

З „Весніка Задрыпоніі"

## БАЦЬКОЎСКІ КАПРЫЗ

Неапраўдана жорстка абышоўся са сваёй дачкой, якая вырашыла выйсці замуж насуперак волі бацькоў, В. Саланчук — адміністратар рэстарана „Блакітны якар": вясельнае застолле ён арганізаваў з блюд, падрыхтаваных ва ўласным рэстаране.

## АБ'ЯВА

Згублены вялікі, заслужаны аўтарытэт. Знаходчыка прашу званіць у любы час.








Курёзы

## ГІСТОРЫЯ З БАРАДОЮ

У амерыканскіх школьных падручніках можна прачытаць, што Злучаныя Штаты Амерыкі — краіна цалкавітай свабоды. Тут, маўляў, кожнаму можна рабіць усё, што яму падабаецца, калі толькі гэта не шкодзіць іншым.

Містэр Кенет Джонсан, школьны настаўнік з горада Дэры, што ў штаце Н'ю-Гемпшыр, ведаў, вядома, што ён жыве ў краіне цалкавітай свабоды. Да таго ж яму падабалася мець сабе бараду. А яго ўзялі ды й звольнілі з работы. Прычына? Ён адмовіўся тую бараду збрыць. Яна, вядома, нікому не перашкаджала, але, бачыце, паводле статуту школы, адрошчваць бараду дазваляецца толькі вучням.

## ВЕТЛІВАЕ ЗАПРАШЭННЕ

Спартыўны клуб у нарвежскім горадзе Сырдалю кожны год арганізуе дзіцячае спартыўнае свята. Аднойчы ўсе члены клуба атрымалі на чарговае свята запрашэнні, у якіх, між іншым, пісалася: „Членаў нашага клуба, якія не маюць сваіх дзяцей, сардэчна просім прывесці з сабою ўнукаў".




**Не звяртайцеся за парадай да чалавека, у якога ёсць адказы на ўсе пытанні.**